




а

№ 3 (99) 2013

# абажур

ГА «БЕЛАРУСКАЯ АСАЦЫЯЦЫЯ ЖУРНАЛІСТАЎ»
THE BELARUSIAN ASSOCIATION OF JOURNALISTS


ТРЫМАЙСЯ ПРАЎДЫ!



На фота (злева направа): Наталля Скурат, прадстаўнік Упраўлення КДБ па Гарадзенскай вобласці; за яе спінай – «эксперт», начальнік упраўлення ідэалагічнай працы Гарадзенскага аблвыканкама Павел Скрабко; фотажурналісты Юлія Дарашкевіч, Аляксандр Васюковіч і Вадзім Заміроўскі

# ГА «БАЖ» не згоднае з рашэннем суда ў Ашмянах

***Заява***

ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» выказвае нязгоду з рашэннем суда Ашмянскага раёна аб прызнанні фотаальбома «Прэс-фота Беларусі 2011» экстрэмісцкімі матэрыяламі. Як мы ўжо адзначалі (http://baj.by/be/node/20447), сам факт разгляду гэтай справы ў судзе выглядаў абсурдна, і менавіта ён, а не змест альбома, здольны падарваць давер да органаў улады.

Спадзяёмся, што дадзенае судовае рашэнне ў законную сілу не ўвойдзе, і Рэспубліка Беларусь не апынецца ў «чорным спісе» дзяржаваў, дзе забараняюць і знішчаюць мастацкія кнігі. Разам з тым мы ўпэўненыя, што беларускія журналісты і надалей будуць выконваць свае прафесійныя абавязкі, не зважаючы на жаданне ідэалагічнай вертыкалі паказваць беларускую рэчаіснасць выключна ў ружовым колеры.

Упэўненыя, што беларуская прэсавая фатаграфія ўсё адно будзе заставацца пераканаўчым фотадакументам пра жыццё беларускага грамадства.

***ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў»***



REPORTERS WITHOUT BORDERS FOR PRESS FREEDOM

## «Рэпарцёры без межаў» назвалі суд над фотаальбомамі трыумфам цэнзуры і абсурду

«Назваць фотаздымкі, сабраныя ў “Belarus Press Photo 2011” «экстрэмісцкімі» – гэта і скандальна, і надзвычай смешна», – адзначаецца ў заяве арганізацыі.

«Гэтае рашэнне дэманструе цвёрды намер беларускіх уладаў паспрабаваць усталяваць абсалютны кантроль над усімі сродкамі выказвання і інфармацыі… КДБ і суд толькі робяць відавочным разрыў паміж рэжымам і грамадствам», – піша RSF.

«Мы просім рэгіянальны суд Гродна адмяніць гэтае ганебнае рашэнне. Гэта адзіны спосаб для судовай сістэмы выблытацца з такой недарэчнай сітуацыі, у якой яна апынулася», – лічыць журналісцкая арганізацыя.

«Рэпарцёры без межаў» падтрымалі конкурс «Прэс-фота Беларусі», распавёўшы пра сітуацыю на сайце «We Fight Censorship» («Мы змагаемся з цэнзурай»).

***Прэс-служба ГА «БАЖ»***

# абажур

ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў»
THE BELARUSIAN ASSOCIATION OF JOURNALISTS

ТРЫМАЙСЯ ПРАЎДЫ!

***Выдавец:*** ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў»
***Перыядычнасць:*** 1 раз у 3 месяцы
Выдаецца са снежня 2000 г.
№ 3 (99) 2013 г.

***Галоўны рэдактар***
Уладзімір Барысавіч Дзюба

***Фота на вокладках –***
Сяргея Грыца (1-я вокладка)
Сяргея Балая (2-я вокладка)
Генадзя Верацінскага (апошняя)

Выданне зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь, рэгістрацыйны № 833 ад 04.12.2009 г.

Падпісана да друку 22.03.2013 г.
Дата выхаду 30.04.2013 г.
Фармат 60х84 / 8.
Папера афсетная.
Друк афсетны. Ум. друк. арк.
Наклад 600 асобнікаў.
Заказ №
Распаўсюджваецца бясплатна.

***Адрас рэдакцыі:***
***220030, г. Мінск,***
***вул. Камсамольская, 7–32.***
***Тэл./факс: (017) 203-63-66,***
***(029) 126-70-98***
***E-mail: abajur@baj.by,***
***baj@baj.by***
***Сайт: www.baj.by***

Друкарня ТАА «МЕДЫСОНТ»
ЛП № 02330/0552782 ад 01.10.2010 г.
Адрас: 220004, г. Мінск, вул. Ціміразева, 9.
Тэл.: (017) 203-74-10, 203-53-41,
(029) 623-74-10
medisont@gmail.com
www.medisont.com

*Марыя Савушкіна,*
*baj.by*



# Вячаслаў Хадасоўскі: *«Прафесійную журналістыку не заменіш словамі на плоце»*

**Тэхналогіі і грамадскія трансфармацыі наступаюць. Што яны нясуць? Кажуць, што кіберпрастора вось-вось паглыне традыцыйныя медыяформы…**

**Вячаслаў Хадасоўскі, галоўны рэдактар штотыднёвіка «Белорусы и рынок» , упэўнены ў прывабнасці друкаванай прэсы, прадказвае падвышэнне кошту на СМІ і гаворыць пра небяспеку расійскага інвестара для беларускага медыярынку.**

На думку Вячаслава Хадасоўскага, стваральніка і галоўнага рэдактара газеты «Белорусы и рынок», ніякія перамены не зменяць сутнасці журналісцкай працы, а друкаваная прэса па-ранейшаму будзе актуальнай і не страціць камерцыйнай прывабнасці.

«Белорусы и рынок» («Белорусский рынок» в 1990–2005 гг.) — першае незалежнае аналітычнае выданне, якое ўжо больш за 20 гадоў мае сваё трывалае месца на нашым медыярынку. Праца рэдакцыі рытмічная — ад нумара да нумара, графік і расклад. Рэдактарам і журналістам не заўсёды стае часу ўзняць галаву і ўбачыць сваё месца ў перспектыве часу. Падумаць стратэгічна няма калі, бо для любой беларускай незалежнай газеты кожны нумар — перамога.

***— Аўдыторыя, якую здольны ахапіць інтэрнэт, непараўнальна большая за аўдыторыю газет і часопісаў. Час друкаванай прэсы сыходзіць?***

— Наклады друкаванай прэсы ў свеце зніжаюцца прыкладна на 10 % у год. Гэта выразная тэндэнцыя, якая, хутчэй за ўсё, захаваецца ў будучыні. Магутныя медыйныя карпарацыі ў Злучаных Штатах і Заходняй Еўропе ўжо некалькі дзесяцігоддзяў намацваюць новыя кірункі працы. Яны шукаюць аптымальныя шляхі «манетызацыі кантэнту» — гэта ключавы панятак сёння, які азначае пераўтварэнне кантэнту, які прадукуюць прафесійныя журналісты, у форму, зручную для продажу. Мы не ведаем, што з'явіцца заўтра. Магчыма, вынайдуць электронную паперу, якая пераверне рынак друкаваных медыя, і аматары прагназаваць зноў скажуць, што «ўсё астатняе памрэ».

Відавочна, што будучыня за інфармацыйнымі тэхналогіямі. Інтэрнэт-медыя больш аператыўныя, зручныя ў доступе. Яны больш прывабныя для некаторых сацыяльных пластоў, асабліва для моладзі. Але папулярнасць медыясайтаў у інтэрнэце значна меншая, чым забаўляльных альбо паштовых сервісаў. Таму не трэба блытаць наведвальнасць інтэрнэту з аўдыторыяй медыя.

***— Якому віду СМІ аддаюць перавагу рэкламадаўцы?***

— Адзін з сусветных лідараў у выдавецкай справе неяк сказаў мне пры размове: «Мы ўжо 15 гадоў рыдлёўкай закідваем грошы ў інтэрнэт, а аддачы няма». Рэкламадаўцы «кармілі» і будуць «карміць» print-выданні. Так, змяняюцца прапорцыі, нейкая частка рэкламы пераходзіць у Сеціва. Але ў цэлым (калі толькі гаворка не ідзе пра YouTube ці Facebook) інтэрнэт-выданні сілкуюцца за кошт друкаваных.

Інтэрнэт-выданні самі па сабе не прыносяць прыбытку. Я не кажу, што так будзе заўсёды, але найбліжэйшыя 10–15 гадоў будзе менавіта так. Далей, я мяркую, больш выразна выявіцца тэндэнцыя змены кантэнту і аблічча друкаваных СМІ ў бок адаптацыі для планшэтаў і смартфонаў. Такія ж змены чакаюць і электронныя СМІ, тэлебачанне.

***— Што будзе ў найбліжэйшы час адбывацца з друкаванымі выданнямі?***

— Каб захаваць сваё месца на рынку, print-выданне павінна мець поўную інтэрнэт-версію, дадатак для планшэта ці смартфона, плюс ствараць відэагісторыі. Адным словам, сучасная газета павінна стаць прадуктам канвергентнай рэдакцыі.

Але сутнасць журналістыкі, нягледзячы на новыя носьбіты, не змяняецца. Прафесійную журналістыку не заменіш напісаннем словаў на плоце.

***— У які бок зменіцца кошт такога «новага беларускага СМІ»?***

— У эканоміцы нічога не таннее. З большай ангажаванасцю тэхналогій у СМІ адпаведна будзе падвышацца і кошт. І рэклама будзе даражэйшай. Новыя медыя патрабуюць дакладнага маркетынгавага разліку продажу кантэнту. Роля маркетынгу ў нашай працы з часам будзе толькі павялічвацца. Ад рэдакцыі гэта запатрабуе вялікіх сродкаў, напрыклад, для таго каб набываць праграмы для планшэтаў. Гэта доўгатэрміновыя інвестыцыі. Я бачыў рэдакцыі, якія працуюць у гэтым кірунку ўжо некалькі гадоў, але пакуль праца выходзіць ім у страты.

Неабходныя для рэдакцый змены вельмі дарагія. У эфір можна выпусціць многае, але ўзнікае пытанне якасці. Калі выданне хоча канкураваць, непрафесійная журналістыка недапушчальная.

***— Як тэхналагічныя трансфармацыі закрануць беларускую медыяпрастору?***

— Мы толькі на пачатку шляху. У нас, за выключэннем 2–3 выпадкаў, няма інвестыцый у СМІ. Можна толькі марыць, што з'явіцца інвестар і сродкі, якія дазволяць рэалізаваць схему працы новага канвергентнага СМІ.

У Беларусі ўвогуле праблема з інвестарамі, тым больш з інвестарамі для СМІ. Існуюць драконаўскія законы. СМІ ў нашых умовах з'яўляюцца нерэнтабельнымі. Ніводная рэдакцыя не зарабляе. У лепшым выпадку газеты працуюць «у нуль». І нашай газеты гэта таксама тычыцца. Хаця я лічу, што Беларусь уяўляе сабой вельмі вялікі інтарэс для інвестараў — у нас 10 млн насельніцтва, і няма ніводнай нармальнай газеты.

***— Якога інвестара можа зацікавіць наш рынак?***

— Заходнія капіталаўкладальнікі маюць канкрэтную мэту — атрыманне прыбытку. Яны зацікаўленыя ў стварэнні аўтарытэтнага, прафесійнага выдання, якое самастойна вызначала б рэдакцыйную палітыку.

З іншага боку, зараз праяўляюць інтарэс да Беларусі расійскія медыяхолдынгі. Гэта прынцыпова іншы інвестар. Яго крэда на беларускім медыярынку — гэта абарона інтарэсаў Расіі, і яны пра гэта шчыра заяўляюць. Трапіць пад уплыў расійскіх медыяхолдынгаў будзе дастаткова лёгка, бо яны могуць прапанаваць заробак у 3–4 разы большы. Кантэнт будзе жорстка кантралявацца. Гэта стане пагрозай для нацыянальнай журналістыкі.

***— З якімі праблемамі сутыкаецца рэдакцыя беларускага эканамічнага выдання?***

— У нас вельмі закрытая сістэма эканомікі. Няма празрыстасці кампаній, не прынята публікаваць справаздачы. Ніхто не піша пра рэальны сектар эканомікі, дзе «круцяцца» велізарныя грошы і дзе занята наша асноўнае насельніцтва.

***— Ваша выданне зарабляе праз інтэрнэт?***

— У нас ёсць платная падпіска праз інтэрнэт. Але, калі проста «павесіць кнопачку на сайце», прыбытку не будзе. Трэба працаваць далей, укладаць сродкі. Стварыць такі паток інфармацыі, які б прыносіў грошы. Як гэта зрабіць? Што можна прадаць? Эксперыменты ідуць па ўсім свеце, і пакуль што яны не вельмі паспяховыя.

Адным словам, наперадзе вельмі шмат выклікаў, якія не зробяць нашае жыццё прасцейшым.

***— Пры якіх умовах у Беларусі ўсе формы СМІ знойдуць сваё месца на рынку?***

— Па-першае, павінна змяніцца палітычная сітуацыя. Калі мы станем адкрытай краінай, пачнуць дзейнічаць законы рынку. Па-другое, патрэбныя нармальныя законы. Калі гэта адбудзецца, мы не будзем адрозніваца ад еўрапейскіх краін. Усе перспектывы ў Беларусі ёсць.

# В онлайн-пасти

## Мифическая редакция, в которой не спешат



Варвара
ЧЕРКОВСКАЯ

**Когда я из школы пришла на работу в редакцию солигорской районки «Шахцёр», мне, не имеющей журналистского образования, коллеги стали подбрасывать специальную литературу. Были среди тех книг «Вторая древнейшая. Беседы о журналистике» и «Ради единого слова» известного потомственного журналиста Валерия Аграновского. Сейчас я понимаю, что многие советы этого мастера — классика журналистики. Но навсегда запомнилось, чему завидовала, читая те книги. Мне казалось, что Валерий Аграновский работает в какой-то мифической редакции, где никуда не надо спешить.**



В советах мэтра не учитывался фактор нехватки времени. Т. е. у автора была возможность долго работать над каждым материалом, а у нас в районке — нет. На подготовку журналистского расследования или очерка ему могли дать командировку на неделю, а то и на месяц. А мы, как Юрий Олеша, ни дня не проводили без строчки.

Я постепенно включилась в редакционный «конвейер».

И вот в один из дней поднялась в пять утра, отправилась в поле на интервью с комбайнером в самую дальнюю точку района, вернулась в редакцию, а во второй половине дня — «отписываюсь», срочно выдаю текст. Полоса зависла. Ждет водитель, который возит макеты в Слуцкую типографию. В рабочий кабинет несколько раз влетает злой редактор, который ждет материал. Ручка раскалена, я спешу и потому не могу собраться с мыслями. А еще в набор отдавать... Завал.

Когда все написано, сдано, поправлено и уехало — вздыхаю свободно. А вечером дома дохожу до главы «Процесс письма», где Аграновский советует не спешить, все несколько раз перечитать в блокнотах и дать себе возможность на «раскачку». Я просто негодую, вспоминая сегодняшний день. Мои ехидные мысли упорно возвращаются к одному: ага, дали бы Вам, Валерий Абрамович, нашего редактора Плешевича, посмотрела бы я, сколько бы Вы раскачивались.

### От коровы до чупакабры

Оглядываясь назад, могу сказать, что не так уж часто газета заставляла работать аврально. Такие ситуации были, скорее, исключением, чем правилом. Полос в газете немного, все заранее спланировано, можно было делать запасы, а на свежую информацию оставлялась одна полоса, каждому — по две новости. Конечно, иногда все «заготовки» вдруг исчезали, оказавшись напечатанными, и редактор на планерках философствовал: «Газета — это корова. Сколько ни делай запасов, она все съест».

С тех пор не прошло еще и двух десятков лет. Но, думаю, сейчас трудно отыскать такого журналиста, который бы мог позволить себе не только такую роскошь, как «раскачка» Аграновского, но и темп работы в конце прошлого века в печатной 16-полоске.

С головокружительной скоростью появлялись новые поколения компьютеров, совершенствовались цифровые технологии, многие издания начали работать в режиме онлайн. Росли, как грибы, новые сайты. Перед журналистами встала такая задача, как борьба за читателей. В современных условиях «продажа информации» зависит не только от ее качества, но и от скорости подачи. У всех печатных изданий появились интернет-версии, которые либо дублируют газетные варианты, либо постоянно наполняются новым контентом. С появлением «всемирной паутины» стало возможным использование мультимедийных технологий. Сайты появились у телевизионных каналов, радиостанций, даже консервативные еженедельники вынуждены были включиться в эту гонку. Успеть раньше конкурентов выложить новости, оперативно и «вкусно» подготовить материалы — не только способ удержать аудиторию читателей, но и заработать. Ведь у некоторых количеством и качеством написанных материалов определяется сумма гонораров. Стремление каждого работающего в сфере массмедиа — успеть в наименьшее количество времени сделать наибольший объем текста.

Если печатное издание — это корова, то онлайн можно сравнить с прожорливой чупакаброй. Здесь всегда есть место для текстов — только пиши. А

читатель ждет, он готов потреблять новости круглые сутки. Незаметно для себя онлайн-журналисты попадают в ловушку. Многие начинают страдать зависимостью от работы, а затем, в связи со спецификой профессии, попадают в плен ко времени.



## «На сайте всегда дедлайн»

Два года назад моя подруга Татьяна Гусева сменила место работы: из региональной газеты «Інфа-Кур'ер» (город Слуцк) перешла на интернет-портал «Салідарнасць». Татьяна — человек активный и творческий, и ее личное дело, на что тратить свое время, но именно наблюдения за близким мне человеком и натолкнули на некоторые размышления. Теперь все чаще в разговорах я слышала, как катастрофически ей не хватает времени на личное. Как будто она участвует в хроническом марафонском забеге.

— Никак не могу отдать знакомой новогодний подарок, не знаю, как выкроить время, чтобы дочку сводить к врачу, — рассказывает мне Татьяна. — Завтра дежурство, а послезавтра командировка, а потом срочно надо отписываться.

— Что в твоей жизни изменилось, когда ты ушла на сайт? — интересуюсь.

— Понимаешь, в газете дедлайн — это сдача выпуска, а на сайте — всегда. Мы должны держать руку на пульсе, а эта оперативность требует психического напряжения. Ну и времени больше забирает. Часто приходится делать материал по горячим следам, быстро искать источники, номера телефонов. Наш читатель всегда ждет обновлений, хочет постоянно получать «свежак». В праздники, выходные на сайте всегда кто-то дежурит. Мне кажется, чтобы угнаться за обилием информации, скоро журналистов начнут ставить по сменам. В газете я тоже работала довольно интенсивно, но было больше времени на личную жизнь, на себя: посетить театр, книжку почитать, сходить в гости. Сейчас на это меньше времени, чем бы хотелось.



## «Яно мне трэба?»

Журналист Руслан Горбачев, коллега Татьяны, перешел в онлайн из барановичской газеты «Intex-press» три с половиной года тому назад. По мнению Руслана, тогда информационная волна в интернете была в разы меньше. Работать на сайте было не сложнее, чем в еженедельнике. Но с каждым годом увеличивалась нагрузка, становилось все больше информационных потоков. Кроме работы журналиста, который должен выдавать на-гора свои тексты, он стал еще выполнять обязанности дежурного редактора, формировать дайджест, следить за десятками текстов, появляющимися на десятках других ресурсов в течение дня. По признанию журналиста, в конце рабочих дней у него стали возникать эмоции: «Яно мне трэба?»

Писать нужно быстрее, реагировать мгновенно, часто случаются стрессы. На свою работу в региональной газете Руслан теперь смотрит иначе: «Там было проще». С другой стороны, рассуждает парень, он не в курсе, в каком ритме сейчас трудятся газетчики. Ведь многое зависит от издания, везде свои требования.

Руслан не смог ответить на вопрос, собирается ли быть онлайн-журналистом до пенсии, но уверил, что работа в целом ему очень нравится.

## «На семье сказывается, но не катастрофически»

Журналист «Нашай Нівы» Семен Печенко рассказывает, что, когда он переехал жить в пригород, его онлайн-работа сузилась до дежурства на сайте: дважды в неделю вечерами в будни и дважды в месяц в выходной. Как правило, дежурит он дома, что позволяет быть с семьей. В рабочие будни домой возвращается поздно, так как дежурит в редакции. Материалы на сайт и в печатную версию «НН» в основном пишутся в рабочее время. Иногда бывают и командировки, и онлайны с уличных акций по выходным, но это не так часто.

Семен признается, что ненормированная работа, конечно, сказывается на семье, но не так уж катастрофически. Тем более что при необходимости начальство идет навстречу, предоставляя отгулы. Например, когда 9 месяцев назад супруга Семена родила, он часто работал на дому, чтобы иметь возможность ей помогать.

## «Женат на работе»

Отдельная онлайн-каста — журналисты спортивных изданий. Мне часто приходилось наблюдать, как они ведут прямые репортажи прямо с мест соревнований, с футбольных или хоккейных матчей. На коленях — ноут, на шее — фотоаппарат, в руке — телефон. Шайба или гол — и журналист уже строчит что-то в редакцию, звонит туда по мобильному, рассказывая о счете и деталях момента.

— Часто ли приходилось пропускать свидания из-за работы? — задаю вопрос журналисту «Прессбола» Вячеславу Федоренкову.

— Все верно, я принадлежу изданию, вот сейчас на часах 20.55, а я еще в редакции — в номер работаю. Завтра из-за КХЛ и вовсе закончу ближе к полуночи, какие уж тут свидания.

Вообще, «женат на работе» — это про журналистов. В том числе и поэтому, наверное, в свои 35 еще ни разу не женат. Работу поспокойнее и постабильнее (в том числе и в плане наличия выходных), конечно, периодически хочется. Но, как сказал Александр Домогаров, исполняя в «Бандитском Петербурге» роль журналиста, «журналистика — это же как наркотик».





## «Иногда некогда даже на минутку отойти от компьютера»

— Работа информагентства, — рассказывает международный обозреватель БелаПАН Татьяна Коровенкова, — безусловно, происходит в более быстром и насыщенном темпе, чем в газете. Новость сразу должна попасть на ленту. Иногда бывает, что нет времени не то что пообедать, нет возможности даже чаю выпить или просто на минутку отойти от компьютера. Но это в те дни, когда происходит что-то важное — какие-то массовые акции, пресс-конференции президента. В обычные дни как-то все успевается само собой.

Сайт смотрю каждый день, независимо от того, дежурный я журналист или нет.

С текстами для аналитики иногда бывает, что вроде есть и бэкграунд, и комментарии экспертов, а сидишь и не знаешь, как это все вместе свести в один красивый материал. Потом понимаешь, что время поджимает, еще чуть-чуть — и редактор будет звонить и спрашивать, когда же будет материал, и текст сам собой складывается.

## «Вместе с сыном приходится возвращаться в офис»

Редактор TUT.BY-ТВ Алена Андреева поделилась, что домашние уже не возмущаются ее работой, но иногда им все же приходится объяснять, что труд журналиста невозможно нормировать

КЗоТом, и если надо работать, то надо сесть и трудиться до трех ночи или подняться в пять, чтобы успеть больше.

У Алены есть важное обстоятельство — ее сын. Когда вышла на работу, ему еще было далеко до трех лет, но он пошел в детский садик. Поэтому в 85 % случаев из офиса приходится выходить своевременно, чтобы забрать ребенка, а потом — «как карта ляжет». Алена признается, что иногда вместе с сыном еще приходится возвращаться в офис, а дома она, занимаясь делами по хозяйству, параллельно что-то заканчивает по работе.

Главным отличием между работой в печатных и онлайн-изданиях Алена считает то, что в газете один мегадедлайн в неделю, а не десять в день. К примеру, ей надо успеть сделать свои материалы, помочь коллегам, проверить их материалы перед публикацией, некоторые из них опубликовать (а сдают их в разное время). Еще хочется хоть полчаса в день выкроить на самообразование и развитие (ведь этого тоже требует работа журналиста). Алена рассказала, как однажды, устав от журналистики, поменяла ее на спокойную работу с 9.00 до 18. 00 в офисе коммерческой структуры с регламентированным обеденным перерывом. Хватило на три месяца, даже на два, потому что, когда поступило «журналистское» предложение, Алена бросила офис без раздумий. Зато теперь она точно знает, что журналистика с водоворотом событий и эмоций — ее!

## Успеть и поберечься

Пообщавшись с коллегами, имена которых в белорусской журналистике — на слуху, которые успешны в профессии, пришла к выводу, что все они чем-то похожи между собой. Можно предположить, что профессию журналиста выбирают люди с определенным набором личностных характеристик. Творчество, предприимчивость, умение слушать и сопереживать, самоконтроль и дисциплина, ответственность — это далеко не полный перечень того, чем должен обладать журналист.

Самим выбором профессии журналист налагает на себя различные обязательства: постоянного роста, самообразования, самосовершенствования. В современных условиях он должен еще быть мобильным, уметь общаться с людьми и оперативно готовить материалы. Это заставляет журналиста постоянно находиться во внутреннем напряжении. Кроме этого, представители нашей профессии постоянно решают вопросы самодисциплины, профессиональной этики и самоцензуры. Если журналисты претендуют на то, чтобы влиять на общество, стать его лидерами, чтобы состояться, они должны быть энтузиастами. Да к тому же это профессия публичная, она требует быть всегда на виду.

Журналисты, несмотря на ряд общих качеств, — все же разные люди. И не важно, относится человек к профессии эмоционально либо прагматично, как к творчеству либо как к ремеслу, ясно то, что хороший, квалифицированный журналист неизбежно постоянно держит себя и свое рабочее время под контролем. А самоконтроль и мониторинг рабочего времени могут губительно воздействовать на психику.

Теперь, по законам жанра, слово специалисту. Ольга Писарева — психолог, сертифицированный гештальт-терапевт, бизнес-тренер, кандидат психологических наук, доцент кафедры психологии БГУ. Она — единственный белорусский ученый, который глубоко изучал тему «ургентной аддикции» (привычка человека находиться в состоянии постоянной нехватки времени). Вот ее мнение — совет журналистам, работающим онлайн.

— Как правило, данная проблема связана с невозможностью определить, что же наиболее важно для человека на данный момент времени, что может подождать, а от чего можно совсем отказаться. Для этого нужно остановиться и прислушаться к себе, своим настоящим желаниям и потребностям, поновому взглянуть на свои ценности, ответить на вопросы: «Зачем я это делаю?» и «Чего именно я хочу?» Совет очень прост — непременно в профессиональной гонке выделяйте регулярно хотя бы один час на неспешное внимание к себе.



Кстати, ощущение нехватки времени, жизнь на работе в постоянной спешке и тревоге не успеть, желание обогнать конкурентов знакомо не только журналистам, но и многим современным преуспевающим профессионалам. Успешны эти люди именно потому, что успевают в своей отрасли выполнить огромное количество задач



за все более короткие временные интервалы. Но есть другая сторона медали. Люди, которые работают по 24 часа в сутки, однажды понимают, что дальше жить становится сложно и хронически не хватает еще нескольких часов. Т. е., несмотря на бонусы от подобного стиля жизни в виде увеличения заработка, повышения по службе, появления больших возможностей выбора, все-таки постоянное пребывание в состоянии нехватки времени и тотальной спешки приводит к эмоциональному и часто физическому истощению.

Если же человек не научится управляться со временем, будет работать на износ, недалеко и до профессионального выгорания.

## Советы, которые не понравятся редакторам

Желание онлайн-журналистов покорить бег времени попадает на благодатную почву. Им точно не будут возмущены коллеги и редактор, в коллективе такой журналист только на руку. Можно понять редак-



торов: ресурсы ограничены, нет возможности содержать большие штаты, лучше на меньшее количество работников навесить больше обязанностей. Но редакторы должны понимать, чем рискует постоянно бегущий в поиске свежей информации журналист. Можно бежать сутки без остановок, но на вторые уже есть риск задохнуться.

С зависимостью от нехватки времени, вероятно, можно попробовать бороться и по-журналистски. Мы — не волшебники и не можем остановить мгновение, как Фауст Гёте, но что-то можем сделать, чтобы нас, таких хороших и успешных, не съели работа онлайн и время, которое с каждым днем сжимается, как шагреневая кожа.

Позволю себе сформулировать несколько практических советов, которыми поделились сами же онлайн-журналисты. Эта «солянка» — по сути, рекомендации журналистов самим себе:

- не расстраивайтесь, если текст не получится идеальным,
- при написании большого материала делайте перерывы,
- соблюдайте баланс работы, отдыха и досуга в вашей жизни,
- для экономии времени при сборе информации используйте телефон, электронную почту, видеозвонки по Skype,
- для экономии времени составляйте список источников, собственную базу данных,
- расширяйте кругозор и увеличивайте скорость восприятия новой информации,
- учитесь говорить редактору «нет», если его требования выходят за рамки должностных обязанностей или когда силы на исходе,
- каждый год берите отпуск,
- не забывайте про обед,
- если заболели, уходите на больничный,
- выше рабочих задач ставьте свои личные и интересы близких.

Напоследок обращение к онлайн-журналистам от автора.

Даже при подготовке этого материала я еще раз убедилась в том, какие вы все замечательные. От журналистики вы — никуда. Но именно поэтому берегите себя и помните: еще ни в одной редакции не поставили памятника журналисту, который проводил там дни и ночи.

# Журналіст і галоўны рэдактар: як ім паразумецца?



**БАЖ вырашыла даведацца з першых вуснаў, што думаюць галоўныя рэдактары пра патрэбныя і шкодныя якасці сваіх супрацоўнікаў і як супрацоўнікі ацэньваюць сваіх «начальнікаў» з пункту гледжання ўласцівасцяў, што замінаюць ці дапамагаюць творчаму працэсу.**

**Галоўным рэдактарам было прапанавана выказвацца не таячыся, а вось шараговым журналістам дазволена не называць сваіх імёнаў.**



*Аксана ЯНОЎСКАЯ*



## За што журналісты шануюць галоўных рэдактараў?

Па вялікім рахунку, нашыя — і рэдактараў, і журналістаў — вартасці ёсць працяг недасканаласцяў. Ды наадварот.

***«Рэдактар СМІ павінен у першую чаргу добра арганізаваць рабочы працэс, забяспечыць журналістаў тэхнічнымі сродкамі, садзейнічаць працы, а не перашкаджаць. Таму што папрокі кшталту “што ты тут каву п’еш?”, “а ці не часта ты выходзіш пакурыць?” проста прыніжаюць. Бо ты ж часам працуеш і ў выходныя, і па начах...»***

Ну тое, што кіраўнік павінен арганізаваць рабочы працэс, — безумоўна, разумнае патрабаванне. І ведаеце, ёсць такія рэдакцыі, у якіх галоўны рэдактар і яго намеснікі кіруюць працэсам, нібы дырыжыруюць аркестрам. Але каб усё атрымлівалася «як па нотах», і «музыкі» павінны быць здольныя і дысцыплінаваныя. Мне, напрыклад, калі я была намеснікам галоўнага рэдактара, сапраўды не раз даводзілася «закіпаць», калі тэхнічны рэдактар кожныя паўгадзіны лётала паліць, а карэспандэнт ніяк не магла выблытацца з сацыяльных сетак.

***«Рэдактар павінен быць чалавекам, з якім журналісту камфортна. Зразумела, што субардынацыя мусіць быць. Але час ад часу, у нейкія цяжкія моманты — панурасць, застой — трэба ўмець і па душах пагаварыць. Калі карпаратыў ці нешта такое — рэдактар павінен умець станавіцца на адзін з табой узровень».***

Кіраўнік павінен быць псіхолагам, калі трэба. Але ёсць агульнавядомае правіла: першым карпаратыўную вечарыну пакідае самы высокі кіраўнік. Стаўшы на карпаратыве на адзін узровень з падначаленымі, можна на гэтым узроўні застацца і «пасля балю».

***«Гэта крыху па-мазахісцку, але ўсё ж адсутнасць ухвалы з боку рэдактара прымушае***

***працаваць яшчэ энергічней і актыўней. Праблема толькі ў тым, што гэта рана ці позна надакучвае».***

Хутчэй, аб гэта спатыкнешся хутка. Нам, рэпарцёрам, як паветра глынуць — ведаць, як наша слова адгукнулася. Чытачы ў наш час не пішуць лістоў, на форумах сядзяць людзі, якія ў большасці сваёй незадаволены ўсім на свеце, таму чакаць ад іх слоў падзякі ці абгрунтаванай крытыкі не даводзіцца. Ну а ў рэдактара ёсць вельмі просты сродак выказаць сваё стаўленне хаця б невербальна — выпісаць прэмію.

*«Тое, што ён прытрымліваецца аднолькавых са мной поглядаў на сітуацыю ў краіне. Адпаведна, па тэмах у нас няма разыходжанняў»,* — піша наконт вартых рэдактарскіх якасцяў адзін з рэпарцёраў.

А толькі ў такога рэдактара і можна працаваць! Бо, калі ты не падзяляеш палітыку выдання, гэта выпрабаванне і вялікі стрэс, які прыводзіць да канфліктаў.

*«У яго неверагоднае адчуванне стылю, ён прыдумляе вельмі крутыя павароты тэм. У цэлым я б назвала гэтую якасць “крутасцю”»,* — адзначае яшчэ адна асоба.

Сапраўды, калі галоўны рэдактар — творчая асоба, то з ім лягчэй і цікавей працаваць, чым з функцыянерам.

Але ў гэтай краіне, на жаль, галоўным рэдактарам можа быць нават дзяўчына з незакончанай сярэдняй спецыяльнай адукацыяй. Ці цётухна з закінутым у шафу дыпломам, якая збірае ў Сеціве кулінарныя рэцэпты, раздражнёна рэагуючы на падначаленых, што перашкаджаюць «працэсу кіравання».



## Як рэдактары перашкаджаюць творчаму працэсу

***«Так атрымліваецца, што журналіст незалежнага выдання амаль заўсёды знаходзіцца ў канфрантацыі з уладамі. Але гэтая канфрантацыя часам бывае яшчэ і з рэдактарам (які часта яшчэ і заснавальнік, і дырэктар). Ён дазваляе сабе грукаць дзвярыма, абражаць людзей, размяшчаць у “СВАІМ” выданні такія матэрыялы, якія наогул не ўпісваюцца ў калектыўна выпрацаваную гадамі канцэпцыю. Маўляў, “я сказаў — і ўсё тут”...»***

Кожнае выданне залежнае ад свайго заснавальніка — ці то ў заснавальніках хтосьці з адміністрацыі прэзідэнта, ці то «супердэмакратычная» прыватная асоба. Словазлучэнне «незалежнае выданне» правакуе непаразуменне. Таму трэба нешта мяняць. Замест «незалежнага» казаць «прыватнае» ці «заснаванае грамадскім аб’яднаннем».

Калі заснавальнік (галоўны рэдактар) ставіць хвалебныя, аднабаковыя матэрыялы пра сваіх сяброў, кампаньёнаў ці тых, ад каго ён залежыць, «губляе твар» не толькі выданне, але і тыя, хто ў ім працуе. «Заказуха» відавочная чытачу. Не хочацца працаваць у такім выданні! Такі «САМ» — гэта ўжо дыягназ, незалежна ад прафесіі.

Але пра «заўсёды знаходзіцца ў канфрантацыі з уладамі» варта пагаварыць. Бо з настроем на канфрантацыю журналістыку факта падмяняеш «журналістыкай праўды» — а розныя «праўды» ды яшчэ на барыкадах ніяк не дазваляюць аб’ектыўна разгледзець факт.

«Дробязнасць у пытаннях аплаты працы і працоўнай дысцыпліны» раздражняе падначаленых рэпарцёраў.

***«Адзін калега заўважыў неяк: рэдактары — яны ж як памешчыкі. Кожны з іх жадаў бы, каб журналіст працаваў 24 гадзіны, рабіў “топавыя навіны” і пры гэтым не задаваў ніякіх пытанняў, у тым ліку пра павышэнне заробкаў. Не ўсе такія, зразумела. Але, на жаль, гэткіх большасць. Калі прэмія нейкая ці іншыя фінансавыя бонусы ў выдання, у рэдактара раптам вырастае хата (для патрэбаў рэдакцыі?!), з’яўляюцца матэрыяльныя каштоўнасці ў выглядзе новай машыны і г. д. А журналістам і “на гарбату” не хапае».***

Так, мае рацыю калега. Апошнім часам заўважана мода на адседжванне часу ў рэдакцыі, вялікія нормы і невялікія выдаткі на персанал. Эканомяць на новых камп’ютарах, простых побытавых рэчах. Гэта не нармальна, калі журналіст павінен кожны дзень цягаць у офіс свой асабісты ноўтбук, купляць за свае грошы дыктафон і г. д.

Пра новыя машыны, кватэры і курорты з дзяўчатамі некаторых былых і нават дзейсных рэдактараў выданняў, якія маюць фінансавую падтрымку, у курылках ці за шклянкай гарбаты гавораць шмат. Але пакуль усё складваецца так, што размовы скончацца, а машыны застануцца.

Ад сітуацыі, калі мала плацяць ці ўвогуле «кідаюць» на грошы, на жаль, не застрахаваны ніводны журналіст.

***«Прыходзіць, скажам, амбітны малады журналіст, у якога, магчыма, бракуе досведу, але ёсць яскравыя суперідэі, што з рэдактарскім досведам можна дапрацаваць. Але рэдактар проста не выходзіць за межы таго, да чаго ён прызвычаіўся. Гэта вялікая бяда нашых рэдактараў».***

Тут яшчэ трэба дадаць, што ў многіх рэдакцыях працуе своеасаблівы «чалавечы фактар». Напрыклад, атмасферу ў калектыве могуць фарміраваць і падтрымліваць журналісты, што даўно ці нядаўна, але ў сябрах галоўнага. Першым з’есць «амбітнага маладога» гэты журналіст-сябра, каб ніхто не паспеў заўважыць ягонай прафесійнай нікчэмнасці і каб у рэдактара не з’явілася раптам новых прыяцеляў...





# Аб якіх падначаленых марыць галоўныя рэдактары?

***Васіль ЗДАНЮК,*** *галоўны рэдактар «СНплюс. Свободные новости плюс»:*

«Па маіх назіраннях, за апошнія 20 гадоў рэзка ўпаў узровень адукацыі на журналісцкіх факультэтах. Прыходзяць элементарна непісьменныя выпускнікі журфака, якіх трэба вучыць мове, якія мала чыталі класікі — дэтэктывы адны».

Добра яшчэ, калі дэтэктывы чыталі... Цяперашнім студэнтам прапануюць столькі паслуг па напісанні кантрольных, курсавых ды дыпломных, што няма патрэбы вучыцца. У грамадстве няма культу адукаванага чалавека, а ёсць — вонкава паспяховага.

***Эдуард МЕЛЬНІКАЎ,***
*у 1992–1994 гг. — галоўны рэдактар грамадска-палітычных праграм Беларускага тэлебачання, намеснік старшыні Дзяржкамітэта Рэспублікі Беларусь па тэлебачанні і радыёвяшчанні, цяпер аўтар і вядоўца ток-шоу «Форум» на «Белсаце»:*

«Аснова прадуктыўнай працы ў журналістыцы — гэта глыбокая ўнутраная гуманітарная культура. Начытанасць, веданне літаратуры, гісторыі, моваў... Мяне засмучае тое, што журналістыцы часам вучаць як комплексу рэфлексаў. Гэта крыху нагадвае дрэсуру: зрабі так, зрабі так — і будзе так! “Рэпарцёрчыкаў” мы нацягаем, так! Але планаваць медыйную дзейнасць такія людзі ніколі не змогуць. Журналістыка — гэта ж не толькі падача інфармацыі, але і духоўнае выхаванне... Можа, такое ўяўленне састарэла, але, мне падаецца, яно мае сэнс».

І яшчэ цытата: «Зараз шмат журналістаў не лічаць патрэбным ехаць да першакрыніцы, не імкнуцца ўвайсці ў кантакт з чалавекам, які валодае інфармацыяй. Яны ператварыліся ў “офісны планктон”, рэальнае жыццё падаецца ім сумным у параўнанні з яркімі колерамі інтэрнэт-рэчаіснасці».

Сказана як звязана. Можа, хтосьці сябе ў гэтым апісанні пазнаў?

***Аляксей КАРОЛЬ,***
*«Новы Час»:*

«Добразычлівасць у дачыненні да людзей, здольнасць спачуваць ім. Інакш тэксты будуць сухімі, не знойдуць водгуку».

***Вячаслаў ХАДАСОЎСКІ,***
*«Белорусы и рынок»:*

«Прафесійная кампетэнтнасць, веданне прадмета. (Паколькі эканамічная журналістыка — спецыфічная “ніша”, магу сказаць, што не хапае наогул журналістаў з веданнем прадмета.)

Настроенасць на пазітыўны вынік — дамагацца чагосьці, нягледзячы на абставіны, жаданне ўдасканальвацца і расці.

Інтарэс да падзеяў і наогул да жыцця, цікаўнасць у добрым сэнсе гэтага слова».

Сустракаюцца журналісты, якія показку «мы газеты не чытаем, мы іх пішам» трымаюць не за жарт. Не чытаюць матэрыялы калег нават у сваім выданні, не кажучы ўжо пра «сваю» тэму на «чужых» старонках.

Называючы негатыўныя якасці падначаленых, галоўныя рэдактары былі амаль што аднадушныя. Ім не падабаюцца тыя, у каго адсутнічае інтарэс да людзей, падзеяў і аб’ектаў публікацый, хто баіцца кантактаваць і ўвогуле шмат асцярожнічае, а таксама скандальныя ды схільныя да інтрыг.

# Белорусским журналистам нужен новый этический кодекс

*Татьяна КОРОВЕНКОВА,*
*naviny.by*

Кодекс журналистской этики Белорусской ассоциации журналистов, который разрабатывался много лет назад, совершенно не учитывал развития интернета и выхода СМИ в онлайн. Однако последние скандалы, связанные как с присутствием журналистов в социальных сетях, так и с публикациями на сайтах различных СМИ авторских колонок, показали, что в белорусской медиасфере назрели серьезные проблемы нового типа.



Редакции крупных СМИ в Европе и США уже давно разработали и применяют кодексы поведения своих сотрудников, в которых определяются в том числе и этические рамки для журналиста в социальных сетях и блогах. Белорусские СМИ к этому пока не пришли.

Многие журналисты здесь считают, что на своей персональной странице в социальной сети или в блоге, а также в личной переписке на этих сервисах они как бы перестают быть представителями редакции, становятся сугубо частными лицами. И потому, мол, вправе никак себя не ограничивать в высказываниях. Хотя на самом деле написанное ими отражается и на их собственной профессиональной репутации, и на репутации СМИ, в котором они работают.

Один из последних наиболее ярких примеров — скандал с репортером TUT.BY Владимиром Чуденцовым, который в виртуальных сражениях в какой-то момент позволил себе грубые, оскорбительные выпады в адрес критиковавших его коллег из других СМИ, прочих пользователей социальных сетей. Все это породило жаркие дискуссии в Facebook. В итоге работодатель Чуденцова — владелец портала Юрий Зиссер — был вынужден публично извиняться за поведение сотрудника, а впоследствии и уволить его.

Медиааналитик Павлюк Быковский отмечает, что в западных СМИ внутриредакционные правила и этические нормы строго регламентируют поведение сотрудников при ведении личных блогов и аккаунтов в социальных сетях. В частности, не приветствуется, а иногда и просто запрещена любая критика в адрес конкурирующих СМИ или журналистов из других изданий, не говоря уже об оскорблениях в их адрес.

«Один из самых строгих кодексов у "Би-би-си", запрещающий, например, журналистам высказывать свои политические взгляды в социальных сетях, быть друзьями с какими-то политиками в сети Facebook, — отметил аналитик в комментарии для БелаПАН. — Хотя в Беларуси такие меры вряд ли возможны на данный момент, так как многие журналисты у нас часто выступают и политиками, и комментаторами, а новости и мнения у нас не всегда разъединены. Но пытаться выработать такие стандарты все же необходимо».

История с Чуденцовым, подчеркивает аналитик, весьма актуализировала проблему поведения журналистов в социальных сетях. «Это как раз тот

пример, который нужно учитывать всем, чтобы не допустить повторения подобного», — считает Быковский.

В свою очередь, руководитель проекта Mediakritika.by Янина Мельникова подчеркивает, что необходимость регламентировать поведение журналиста в социальных сетях — явление новое для Беларуси.

«Будем откровенны и признаем, что мы отстаем во многих вопросах от наших европейских или американских коллег, — сказала она в комментарии для БелаПАН. — В этических кодексах отдельных западных редакций содержатся достаточно четкие и конкретные рекомендации для сотрудников. В этих правилах, с которыми журналисты знакомятся при приеме на работу, очень часто бывает прописано, что, хотя у сотрудника не отнимают права вести свой блог или иметь аккаунт в социальных сетях, свобода слова для него немного ограничена корпоративными интересами».

Собеседница подчеркнула, что весьма часто западным журналистам рекомендуется не публиковать ничего, связанного с их работой, быть корректными и сдержанными в своих личных публикациях. «Уже многие редакции СМИ на Западе пришли к тому, что подобные вещи нужно оговаривать с человеком на этапе приема на работу», — подчеркнула Мельникова.

Руководитель проекта Mediakritika.by с сожалением констатирует, что белорусским СМИ до подобных решений еще, кажется, очень далеко. Существует Кодекс профессиональной этики БАЖ, но он создавался довольно давно.

«В нем вообще не принимается во внимание развитие интернета как такового, в нем нет рекомендаций, связанных с онлайн-СМИ и поведением журналиста в социальных сетях, — говорит Мельникова. — Все это сейчас достаточно активно обсуждается, что не может не радовать, пусть даже поводом для этих обсуждений стали весьма неприятные инциденты. Думаю, что мы все же придем к тому, что подобные рекомендации станут появляться как на уровне редакций, так и на уровне журналистских организаций».

По ее словам, правление БАЖ обратилось к комиссии по этике этой организации с предложением подготовить рекомендации по этическим нормам в онлайн-СМИ. И они готовятся, но приняты могут быть лишь на очередном съезде БАЖ.

«Однако нет нужды ждать, пока все эти вещи будут прописаны в кодексе этики, — считает Мельникова. — Достаточно быть ответственным, здравомыслящим профессионалом, который хочет шагать в ногу со временем и не потерять себя в профессии, чтобы уже сейчас внимательно читать рекомендации комиссии по этике на основании разбора отдельных случаев, понимать, для чего они были даны, и следовать им».

Еще одной важной проблемой, отмечает Мельникова, является содержание авторских колонок и блогов. «Ответственность редакции за то, что она публикует, была и будет — это основа журналистики. В этом разница между журналистами и блогерами — в ответственности за ту информацию, которую мы публикуем, — подчеркивает эксперт. — Другое дело, что в случае с авторскими колонками речь идет о личных мнениях. С одной стороны, свобода выражения мнений превалирует над многими вещами. И мы как журналисты должны гарантировать эту свободу обществу и отдельным его гражданам».

В то же время, считает Мельникова, если авторский текст содержит оскорбительные выпады, непроверенные факты, слухи, то, безусловно, редакции стоит быть очень внимательной к трансляции такого мнения. В противном случае есть риск не только попасть под разбирательство в комиссии по этике, но и получить повестку в суд, где ответ придется держать уже по всей строгости закона.

Один из последних примеров — рассмотрение комиссией по этике БАЖ жалобы историка Игоря Кузнецова на публикацию политика Зенона Позняка «Сущность провокации» в блоге на сайте Белорусской службы Радио Свобода.

По мнению Кузнецова, некоторые фразы публикации являются клеветническими измышлениями либо содержат искаженные факты. Он обратился с целью оспорить эти сведения к директору Белорусской службы Радио Свобода Александру Лукашуку. Тот предложил Кузнецову подготовить ответ на спорную публикацию. Сочтя такое предложение неприемлемым и не дождавшись выполнения своих требований, Кузнецов обратился в комиссию по этике БАЖ, которая и признала, что в опубликованном материале есть нарушения этических норм.

Примечательно, что некоторых возмутили как решение комиссии, так и тот факт, что она рассмотрела вопрос, несмотря на то что ни Кузнецов, ни Позняк не являются членами БАЖ.

Янина Мельникова, говоря об этом, подчеркивает, что современные технологии позволяют «нам очень легко и быстро реагировать на событие, комментировать и отвечать в интернете».

«При этом мы настолько спешим высказать свое мнение, что не разбираемся непосредственно в сути и инструментарии. Если бы люди, которые критиковали решение комиссии, удосужились почитать про нее чуть больше, чем название, то смогли бы понять, что она не является судом, но имеет право принимать к рассмотрению заявления не только от членов БАЖ и не только на членов БАЖ, а ее решения являются рекомендацией для журналистского сообщества, — сказала Мельникова. — Разобравшись в этом, критики бы поняли, что вопрос не в Кузнецове и Позняке, а в ответственности СМИ при трансляции неких

І водгукі на кнігу ад, так бы мовіць, шырокага грамадства — надзвычай пазітыўныя. І гэта тычыцца не столькі маёй творчасці, колькі асобы Алеся Бяляцкага, якога вельмі прыязна ўзгадваюць і ў Менску, і ў Горадні, і ў Маладзечне, і ў Смаргоні, іншых месцах.

***— Дарэчы, а ўдалося самому Алесю перадаць кнігу?***

— Так, ён атрымаў. Алесю дазваляюць атрымліваць лісты і не забараняюць часам нейкія кніжкі яму перадаваць. У прыватнасці, калі выйшла кніжка «Наша “Вясна”» да 15-годдзя гэтай арганізацыі, яму даслалі адзін асобнік. Алеся выклікалі ў адміністрацыю калоніі, паказалі кніжку, сказалі: «Вы можаце яе патрымаць у руках». Ён яе ўзяў у рукі, патрымаў, пагартаў, і кніжку забралі...

Калі я атрымаў сігнальны экзэмпляр сваёй кнігі пра Бяляцкага, я пайшоў на пошту і даслаў яе бандэроллю. Падумаў: «Напэўна, не аддадуць. У лепшым выпадку дадуць патрымаць». Але яму аддалі. Якраз перад Калядамі гэта здарылася. Ён мне напісаў: «Гэта самы дарагі калядны падарунак. Мне неяк няёмка, што я апынуўся ў цэнтры ўвагі. Магчыма, я не варты таго. Але кніга будзе ўжо мець сваё жыццё, незалежнае ад мяне і ад цябе, Валера». Вось так мне напісаў Алесь. Напісаў, што не будзе спяшацца, будзе чытаць пакрысе, маўляў, заняты на працы... А потым ужо ад іншых людзей я даведаўся, што за адзін дзень ён яе прачытаў, знайшоў некалькі «блох», дробных памылак, не вельмі істотных. А ў цэлым там напісана шмат пра яго, шмат пра сям'ю, і чытаць гэта яму шчымліва...



***— У кожнай кнізе ёсць станоўчыя героі і адмоўныя. Ясна, што са станоўчымі ў цябе было прасцей — у Алеся шмат сяброў, калег, аднадумцаў, ён — асоба публічная. Да таго ж ты знайшоў шмат цікавых матэрыялаў, дакументаў... Але ў цябе там ёсць даволі яскрава, трапна апісаныя, да прыкладу, следчая Таццяна Касынкіна, пракурор Валер Сайкоўскі. Як удалося пры ўсёй закрытасці нашай сістэмы стварыць вобразы гэтых людзей? Як удалося іх так вымаляваць?***

— Самымі рознымі сродкамі. Па-першае, з дапамогай людзей, якія з імі размаўлялі. А шмат праваабаронцаў дапытвала старэйшы лейтэнант Таццяна Касынкіна асабіста. У іх склаўся гэты вобраз. А яе фотаздымак я знайшоў на сайце posobniki.org. Потым я паказаў фота Наталлі Пінчук, яна пацвердзіла. Мне ўдалося датэлефанавацца і да самой Касынкінай. Пагаварыў з ёй, праўда, вельмі мала — яна не захацела размаўляць. Але тым не менш у мяне асабіста склалася ўражанне пра яе.

Выпадкова даведаўся, што яе падвысілі па службе. Яна ўжо перайшла з Дэпартамента фінансавых расследаванняў у Следчы камітэт, прызначана вядучым інспектарам групы па зваротах грамадзянаў. Дзякуючы справе Алеся Бяляцкага яна робіць кар'еру — на прыступку ўверх яна ўжо ўзнялася.

Коратка мне ўдалося пагаварыць і з пракурорам Валерыем Сайкоўскім, які быў на працэсе дзяржаўным абвінаваўцам. Ён увесь працэс праседзеў, падпёршы рукой падбародак, я за ім назіраў. Сайкоўскі, дарэчы, таксама пайшоў на падвышэнне. Ён зараз намеснік начальніка Следчага камітэта па Мінску — даволі высокая пасада. Таксама дэтэктыўная гісторыя, як я пра гэта даведаўся. Я доўга думаў, куды ж ён падзеўся, бо пачалася вялікая рэформа ў Беларусі. Лукашэнка стварыў Следчы камітэт неўзабаве пасля суда над Алесем. Па логіцы і правілах уладаў пракурору павінны былі аддзячыць. Я пазваніў у прыёмную толькі што створанага Следчага камітэта: «Добры дзень, дзе мне знайсці Сайкоўскага? А то няма кантактаў, вы ж нядаўна створаныя». Мне падказалі нумар тэлефона ягонай прыёмнай. Пытаюся: «А хто ён зараз?» Мне і паведамілі, якая ў яго новая пасада. Вось такім чынам я даведаўся, што пракурора Сайкоўскага павысілі. Самае складанае — з высокапастаўленымі службоўцамі скантактавацца, нейкую інфармацыю ад іх атрымаць. Гэтага, канечне, бракавала... Але выкарыстоўваў усе сродкі, каб даведацца пра гэтых «антыгерояў».

Прычым шмат было і на відэа адлюстравана. Супрацоўнікі Дэпартамента фінансавых расследаванняў зафіксаваныя на відэа падчас арышту Алеся, якое мне перадалі з тэлеканала «Белсат». Было бачна, як яны сябе паводзілі, што

гаварылі. Плюс шмат цікавых дэталяў распавялі сведкі, якіх дапытвалі. Карціна складаецца з тых мазкоў, штрыхоў, уражанняў.

***— У кнізе вельмі багаты ілюстрацыйны матэрыял, безліч унікальных фотаздымкаў. Як удалося ўсё гэта багацце сабраць?***

— Там толькі адна дзясятая фотаздымкаў змешчаная з таго, што я маю. Шукаў дзе толькі мог. Ува ўсіх беларускіх фатографаў, у архівах «Вясны», самога Алеся Бяляцкага, Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека — мне многа цікавага даслалі з Парыжа. Жонка Бяляцкага Наталля Пінчук дала шмат здымкаў з сямейных альбомаў. Алесь Бяляцкі на свабодзе стварыў вялікі свой фонд на сайце vytoki.net. Там пра яго было вельмі багата матэрыялаў, і не толькі ілюстрацыйных. Змешчана шмат дакументаў, напрыклад, пра Алесева дэпутацтва ў Мінскім гарсавеце. Ён сам гэтыя матэрыялы туды паклаў. Дзе толькі мог, там я і шукаў.

Адзінае, што мне не ўдалося знайсці з ілюстрацый і пра што я шкадую, — гэта як Алесеў бел-чырвона-белы сцяг, які ён прынёс, вісіць над гарсаветам. Гэты здымак я шукаў дзе толькі мог і так і не знайшоў арыгінал. Але выявіў яго надрукаваным у газеце «Вечерний Минск» за 6 верасня 1991 года. Ясная рэч, газетны здымак вельмі дрэннай якасці, пры тых тэхналогіях, якія ў той час былі... Над гарсаветам вісяць два сцягі — бел-чырвона-белы і чырвона-зялёны, і некалькі дэпутатаў умацоўваць новы сцяг. Гэты здымак у кнізе таксама ёсць. І ў публікацыі на сайце Радыё Свабода я яго выкарыстаў. Дарэчы, на сайце фота значна больш, чым у самой кнізе. Плюс шмат здымкаў удалося зрабіць з відэа — скрын-шоты з відэаматэрыялаў. Я вялікую працу правёў з графічнымі матэрыяламі. Шкада, што відэа ў кнігу не змяшчаецца. Я знайшоў запісаныя на відэа выступы Алеся, напрыклад, на форуме ў Осла ў 2009 годзе, калі ён атрымліваў прэмію Нарвежскага Хельсінскага камітэта, ягоны выступ на пасяджэнні Камітэта Еўрапейскага парламента. Даволі шмат інтэрв'ю ён даваў: «Белсату», азербайджанскаму рэсурсу... Фільмы розныя ёсць таксама.

***— Уяўляю, якая гэта цяжкая, напружаная, эмацыйная праца. Гэта вымагае ў журналіста шмат сіл: і фізічных, і маральных...***

— Так, праца напружаная, эмацыйная. Але гэта яшчэ куды не ішло, не самае цяжкае. Трэба было прыдумаць, як гэта цікава падаць, адлюстраваць, каб крымінальны працэс не выглядаў сумным. І я дзве ночы не спаў, але прыдумаў схему: дзень суда і ноч на роздум пасля яго. Што адбывалася на працэсе, як адбывалася, чаму, з чым гэта звязана, як гэта тлумачыць... А потым роздум: турэмныя ўмовы, як згушчаліся хмары, каго пасадзілі, што гэта за асоба. Калі я прыдумаў гэту схему, зразумеў, што я хачу, якімі павінны быць нейкія дэталі структурныя. І калі ўжо ведаеш, як і чаго ты хочаш, працаваць лягчэй. Калі ў цябе ёсць план, ужо лягчэй пісаць.





— *Кніга спачатку публікавалася на сайце Радыё Свабода. Што пісалі чытачы на форумах?*

— Пісалі ў асноўным добрыя водгукі, дзякавалі. Быў допіс Галіны Вашчанкі, які мяне паставіў у тупік. Галіна Вашчанка — гэта жонка Зянона Пазняка. Яна была дэпутатам гарсавета разам з Бяляцкім. Спадарыня Вашчанка піша, што Алесь быў сціплы, неактыўны, нічога ў гарсавеце не рабіў, бел-чырвона-белы сцяг не ўносіў, а ажыццявіў гэта іншы. Не быў ён ініцыятарам перайменавання вуліц і, увогуле, разваліў БНФ... Непрыемныя моманты. Алесь пэўны час сапраўды быў інтэграваны ў палітычную структуру БНФ. Галіну і яе мужа я паважаю. Але мне не падабаецца, што мы вось так грызём адзін аднаго, што гэтыя палітычныя сваркі ствараюць ворагаў. Зразумела, што была нейкая палітычная барацьба ўнутры партыі, палітычнае саперніцтва. Нехта перамог, нехта прайграў. Вінцук Вячорка перамог Пазняка, але потым Вячорку перамог нехта іншы. Гэта нармальны працэс. І гэта не павінна станавіцца падставай для нейкай варожасці. Вось такія моманты міжпартыйныя, міжапазіцыйныя, нейкія сваркі я абмінаў, лічыў, што гэта не істотнае. Дакладней, істотнае для нейкага пэўнага палітычнага моманту. А для гісторыі і чалавечага жыцця — не істотна. І, у прынцыпе, Алесь ужо выйшаў з партыйна-палітычнага жыцця. Ён, наадварот, асоба, якая аб'ядноўвае палітычныя рухі, фракцыі...

Былі па кнізе нейкія дробныя заўвагі, але збольшага і на форумах была пазітыўная ацэнка.

— *Прайшло шмат прэзентацыяў кнігі, і не толькі ў сталіцы і абласных цэнтрах. Якія ўражанні ад сустрэч з людзьмі ў правінцыі?*

— Калі я сустракаўся з людзьмі ў райцэнтрах, гэта крыху нагадвала сітуацыю з Кубай, якую Алесь апісваў. На Кубе створаныя падпольныя бібліятэкі, дзе збіраюцца іншадумцы, нешта абмяркоўваюць. Вось такія суполкі існуюць і ў беларускіх райцэнтрах. Прыходзяць туды людзі цвёрдыя, бітыя, моцныя, не зламаныя духам. Вельмі прыемна з імі гаварыць. Яны дасведчаныя. Я стараўся мультымедыйную прэзентацыю зрабіць. А людзі пісалі лісты Алесю.

Дарэчы, перапіска з чалавекам, які сядзіць у турме, даволі складаная. Не хочацца нейкай банальшчыны кшталту «трымайся, мы з табою». Хаця, я думаю, гэтыя словы яму таксама прыемна чуць. Калі сядаеш пісаць ліст, цяжка сябе настроіць, каб не выглядаць няшчырым...

— *А ёсць асобы ў Беларусі, пра якіх хацелася б напісаць кнігу?*

— Кнігу пра Алеся Бяляцкага я пісаў год, і атрымалася 364 старонкі. Праўда, сам працэс напісання, магчыма, быў і карацейшым, але карэктура, рэдагаванне — доўгі працэс.

Ёсць ідэя стварыць яшчэ мультымедыйны праект, бо ў мяне ёсць вельмі шмат графічных матэрыялаў, фота, відэа для электроннай кнігі. Хацеў бы стварыць яшчэ гэткі дадатак, сучасны варыянт, каб завяршыць працу.

А наконт асобаў — шмат ёсць людзей, якія годныя, вартыя кнігі. Не толькі Лукашэнка, пра якога тры кнігі напісаныя. Ёсць шмат людзей, якія яму супрацьстаяць і заслугоўваюць павагі. Не толькі тыя, хто сядзіць. Можна напісаць пра Мірона — не пра канкрэтнага чалавека, а пра міфічную, зборную асобу. Гэта выдатная асоба для журналісцкай працы. Знайсці ўсіх людзей, якія Міронамі сябе называлі, учынкі рабілі. Гэта такі феномен наш унікальны!

Філосаф Валянцін Акудовіч сказаў мне, што я фактычна пачынальнік, што ён не памятае такіх кніг пра жывых сучаснікаў. Былі альбомы падарункавыя, юбілейныя: пра балетмайстра Елізар'ева, архітэктара Левіна. А такая журналісцкая праца пра жывую асобу, па назіранні Акудовіча, з'явілася ўпершыню. За выключэннем кнігі пра Лукашэнку, канечне.

**Паўстанне 1863 г., як і нацыянальна-вызваленчы рух 1794 г., 1831 г., было накіравана супраць расійскага царызму, на аднаўленне незалежнасці і адзінства зямель былой Рэчы Паспалітай. Аднак разам з тым яно мела шэраг значных адметнасцяў. У першую чаргу гэтыя асаблівасці выявіліся ў сацыяльнай накіраванасці праграмы паўстання і ў новай пастаноўцы нацыянальнага пытання.**



*Аляксандр РАДЗЮК,*
*кандыдат гістарычных навук,*
*Горадня*

# Паўстанне 1863–1864 гг. на Гарадзеншчыне

(Заканчэнне. Пачатак у № 2 (98) 2013 г.)

## Партызанка і прысяга

Першыя ўласна гарадзенскія атрады пачалі фарміравацца вясной 1863 г. у заходняй частцы губерні: Бельскім, Сакольскім ды Беластоцкім паветах. Тут быў арганізаваны найбуйнейшы партызанскі корпус, які ўзначальвалі А. Духінскі і В. Урублеўскі. Да іх далучаліся людзі розных сацыяльных груп з суседніх паветаў (Гарадзенскага, Слонімскага, Ваўкавыскага — са Свіслачы прыйшло 50 чалавек). Тым часам дзейнасць атрада выходзіла далёка за межы заходняга рэгіёна. Асабліва гэта тычылася мабільнай коннай часці пад камандаваннем К. Кабылінскага, на фарміраванне якой даў грошы яго бацька. Шырокі рэзананс сярод мясцовага насельніцтва выклікала заняцце К. Кабылінскім на пачатку траўня Свіслачы, а пазней Ружан, Гуты ды і іншых больш дробных мясцін Ваўкавыскага павета. Характэрна, што К. Кабылінскі, які належаў да саслоўя памешчыкаў, распаўсюджваў аграрны маніфест паўстанцкіх улад, дакумент, які значна ўшчамляў правы і інтарэсы гэтага саслоўя. Такія выпадкі не былі адзінкавымі. Пра шырокую прапаганду сярод сялянства на Гарадзеншчыне сведчаць данясенні ўрадавых чыноўнікаў і пазней, падчас следства, паказанні саміх паўстанцаў. Асабліва выразна дзейнасць па выкананні распараджэння паўстанцкіх улад аб тлумачэнні сялянам аграрнага маніфеста, прасочваецца на Ашмяншчыне, павеце, ваенным начальнікам якога быў З. Мінейка. Як адзначалі на допытах паўстанцы яго атрада, Баравы (псеўданім З. Мінейкі) сам друкаваў гэтыя маніфесты, чытаў іх сялянам і прыводзіў да прысягі цэлыя вёскі.

Таксама значная роля ў распаўсюджванні паўстанцкіх заклікаў і праграмных дакументаў належала каталіцкаму духавенству. Ксяндзы з амбона чыталі аграрныя і іншыя распараджэнні, заклікалі насельніцтва да зброі. І гэта дало вынікі. Гарадзеншчына стала тым рэгіёнам, дзе сялянства ў найбольшай ступені ў параўнанні з іншымі раёнамі Беларусі і часткова Літвы падтрымала паўстанне.

Аднак усё ж такі асновай рэкрутацыйнай базы паўстання былі асобы, якія належалі да саслоўя




*Павел Дыбоўскі, псеўданім — Зарэмба, памешчык Слуцкага павета, сасланы ў Архангельскую губерню. LVIA. F. 439. Ap. 1. B. 147. L. 9–9 v.*


*Антоній Ждановіч-Крупоўскі (каля 1814—?), шляхціц Ігуменскага павета, сасланы ў Томскую губерню. LVIA. F. 439. Ap. 1. B. 147. L. 41–41 v.*

мясцовых землеўладальнікаў, а таксама прадстаўнікі дробнай шляхты і чыноўнікі.

Нельга не адзначыць ролю вучнёўскай моладзі, якая таксама пераважна паходзіла з гэтых сацыяльных груп. Па падліках польскага гісторыка Л. Заштаўта, колькасць вучняў у сярэдніх навучальных установах Віленскай навучальнай акругі ў 1863–1864 гг. скарацілася амаль што напалову (з 6488 да 3388). Канечне, не ўсе яны ўдзельнічалі ва ўзброенай барацьбе, але іх працэнт быў даволі высокі. Напрыклад, вучнёўская моладзь складала значную частку атрадаў Л. Нарбута, Б. Ябланоўскага і інш. Нягледзячы на тое што на тэрыторыі Літвы і Беларусі ў 1863 г. не было ўніверсітэтаў, студэнты ВНУ таксама прынялі самы актыўны ўдзел ва ўзброенай барацьбе. У першую чаргу гэта тычыцца моладзі, якая навучалася ў сталічным (Санкт-Пецярбург) і Маскоўскім універсітэтах. Не спыняла іх нават распараджэнне царскіх улад аб адлічэнні за самавольную адлучку. Як сведчыў у красавіку 1863 г. кіеўскі губернатар, студэнты Кіеўскага ўніверсітэта ў масавым парадку выязджаюць у Літву, каб прыняць удзел у паўстанні. З 500 асоб «польскага» паходжання, якія навучаліся ў Дэрпцкім універсітэце, да паўстання далучыліся 136 чалавек, многія з якіх, як, напрыклад, К. Кашыц (цывільны начальнік Наваградскага павета) ці С. Сільвястровіч (які быў прыгавораны да пакарання смерцю), паходзяць з тэрыторыі Гарадзеншчыны.



## Урачы і святары

Яшчэ не да канца даследавана роля ўрачоў у паўстанні 1863–1864 гг. Многія з іх выконвалі не толькі свае непасрэдныя абавязкі, але і былі членамі тайнай паўстанцкай арганізацыі і сувязнымі, займалі актыўную грамадзянскую пазіцыю і падавалі прыклад іншым. Гэтыя факты занатаваны ваенным начальнікам Ваўкавыскага павета, які даносіў, што згодна з сабранымі ім звесткамі «большая частка агентаў рэвалюцыйнага камітэта складаецца з урачоў, якія паводле роду сваёй дзейнасці могуць свабодна перамяшчацца з месца на месца». Пра актыўнасць мясцовых эскулапаў сведчаць паказанні А. Акінчыца, які ў 1863 г. выконваў абавязкі акруговага ўрача Слоніма і Пружан. Вось як ён тлумачыў асабістыя матывы, якія падштурхнулі яго да ўступлення ў паўстанцкі атрад. Пасля атрымання пісьмовага распараджэння ад рэвалюцыйнага камітэта, «падахвочаны думкай пра вызваленне сваёй Айчыны, а таксама маючы перакананні ў тым, што ў гэтай

справе на яго больш, чым на каго іншага, могуць быць накіраваны позіркі іншых», А. Акінчыц пайшоў дапамагаць паўстанцам.

Пра актыўную грамадзянскую пазіцыю ўрачоў сведчаць і многія іншыя прыклады. Шмат хто з іх займаў галоўныя пасады ў мясцовых рэвалюцыйных арганізацыях, а пасля апынуўся сярод кіраўнікоў узброенай барацьбы. У гарадзенскай рэвалюцыйнай арганізацыі сваёй актыўнасцю вылучаліся Ц. Цэханоўскі і Б. Заблоцкі, у ваўкавыскай — М. Гліндзіч, кобрынскай — П. Паўловіч, пружанскай — той жа А. Акінчыц і шмат хто яшчэ.

Таксама важную ролю ў паўстанні адыгрывала каталіцкае духавенства. Перш за ўсё гэта тычыцца мабілізацыі мясцовага насельніцтва на ўзброеную барацьбу. Дзейнасць духавенства не абмяжоўвалася выключна механічным абвяшчэннем паўстанцкіх дэкрэтаў. Хаця падобны крок патрабаваў мужнасці, бо за такія «злачынствы» ксяндзоў (як, напрыклад, С. Ішору і Р. Зямацкага з Лідскага павета) паводле загаду М. Мураўёва расстрэльвалі.

У першую чаргу трэба мець на ўвазе той вялікі ўплыў, які каталіцкія святары мелі на мясцовае насельніцтва. І словам, і асабістым прыкладам (на Гарадзеншчыне ва ўсіх буйных атрадах былі ксяндзы, а ў некаторых выпадках яны нават узначальвалі партызанскія фарміраванні). Святары заахвочвалі людзей з розных саслоўных груп да падтрымкі паўстання. Яны таксама займалі важныя пасады ў мясцовых рэвалюцыйных арганізацыях, удзельнічалі ў стварэнні партызанскіх атрадаў, выконвалі функцыі сувязных, прыводзілі паўстанцаў і мясцовае насельніцтва да прысягі.



*Яўстафій Козел-Паклеўскі, студэнт Горы-Горацкага земляробчага інстытута. LVIA. F. 439. Ap. 1. B. 147. L. 119–119 v.*

Асабліва моцны аўтарытэт каталіцкага духавенства быў у сялянскім асяроддзі. Паколькі глыбокай нацыянальнай свядомасці ў сучасным разуменні гэтага панятку тады яшчэ не было, чыннік рэлігіі, у пэўным сэнсе, замяняў яе.

## Агітацыя і друк

Разам з тым каталіцкая царква не была адзіным ці нават галоўным чыннікам, які падштурхоўваў беларускіх сялян да ўдзелу ў паўстанні. Прапаганду ў гэтым асяроддзі яшчэ напярэдадні падзей 1863 г. вяла групоўка, якую ўзначальваў Кастусь Каліноўскі. У газеце «Мужыцкая праўда» і шматлікіх зваротах да насельніцтва паведамлялася пра падманутыя надзеі, якія тычыліся рэформаў 1861 г. Гэта інфармацыя стала тым зернем, якое дало парасткі падчас арганізацыі ўзброенага паўстання. А з яго пачаткам агітацыйная дзейнасць сярод сялянства яшчэ больш узмацнілася. У напісанай К. Каліноўскім інструкцыі для павятовых камісараў Гарадзенскага ваяводства адзначалася, што неабходна, «каб у кожнай вёсцы, праз якую праходзіць атрад, быў абвешчаны дэкрэт Нацыянальнага ўрада аб зямельнай уласнасці». В. Урублеўскі пісаў да «Юзіка з-пад Беластока», што трэба «пры кожнай зручнай магчымасці чытаць маніфест Нацыянальнага ўрада па-русінску».

Для распаўсюджвання паўстанцкіх распараджэнняў у партызанскіх атрадах стварылі спецыяльныя аддзелы. Вельмі важна, што зямельныя дэкрэты паўстанцкіх улад не былі фармальнасцю, бо толькі абвяшчэннем аграрных дакументаў «сялянская справа» ў 1863 г. не абмяжоўвалася. Многія землеўладальнікі, пераважна з ліку тых, хто падтрымліваў паўстанне ці спачуваў яму, свядома выконвалі гэты маніфест. Напрыклад, памешчык Кунцэвіч з Лідскага павета на пачатку паўстання абвясціў сваім сялянам, што «Польскі ўрад надзяліў іх зямлёй, і таму ён таксама дае ім зямлю і не будзе патрабаваць паншчыны і чыншу, і што памешчыкі і сяляне з гэтага часу роўныя». І такія выпадкі не былі адзінкавымі. Тыя ж землеўладальнікі, якія адмаўляліся ад рэалізацыі палажэнняў аграрнага маніфеста Нацыянальнага ўрада, часта жорстка караліся інсургентамі.

Аграрная праграма паўстанцкіх улад таксама адпавядала інтарэсам «дзяржаўных сялян», на якіх палажэнні рэформы 1861 г. не распаўсюджваліся. Нявырашанасць зямельнага пытання ў беларускай вёсцы прыцягнула на бок інсургентаў частку праваслаўнага насельніцтва. Аднак больш важным чыннікам іх удзелу ва ўзброенай барацьбе, падаецца, было захаванне ў гэтым асяродку гістарычнай памяці аб уніяцкай царкве, якая існавала тут да 1839 г. Менавіта былыя ўніяты складалі



*Стэфан Любамірскі, князь,
магілёўскі маршалак, сасланы.
LVIA. F. 439. Ap. 1. B. 148. L. 60–60 v.*

большасць той праваслаўнай часткі насельніцтва, што падтрымала паўстанне.

Сярод іншых прычын, якія падштурхоўвалі сялянства да ўдзелу ў барацьбе супраць царскіх улад, былі першапачатковыя поспехі паўстанцкага руху, якія даказалі здольнасць партызан змагацца з царызмам і адначасова прадэманстравалі хісткасць становішча афіцыйных улад у тым ці іншым рэгіёне. Пэўную ролю тут адыгрывала і пашыраная ў гэтым асяродку вера ў хуткую дапамогу Францыі і Англіі. Усе гэтыя чыннікі забяспечылі больш шырокі ўдзел сялянства Гарадзеншчыны ў паўстанні ў параўнанні з іншымі рэгіёнамі Беларусі. Сёння ў большасці даследаванняў тых падзей можна сустрэць звесткі пра тое, што асобы гэтага сацыяльнага слоя складалі 33 % ад агульнай колькасці ўдзельнікаў нацыянальна-вызваленчага руху на тэрыторыі Гарадзенскай губерні.

Разам з тым не выпадае сцвярджаць, што падобны ўдзел меў выключна добраахвотны характар. Падчас следства ці не ўсе прадстаўнікі сялянства ў адзін голас заяўлялі, што «былі ўзяты ў шайку прымусова». Канечне, нельга поўнасцю давяраць гэтым сведчанням, бо такімі тлумачэннямі падследныя імкнуліся зменшыць сваю віну. Хаця сярод іх былі і такія, каго адпраўлялі да партызан іх былыя паны, а таксама рэкрутаваныя паўстанцамі супраць волі. На тэрыторыі Гарадзеншчыны (асабліва ў заходняй яе часткі) дзейнічалі атрады жандараў-паўстанцаў, якія davолі часта выкарыстоўвалі гвалтоўныя метады вярбоўкі новых кадраў. Зразумела, што селянін, мабілізаваны такім чынам, пры першым зручным выпадку кідаў зброю і вяртаўся дадому.

## Няроўная схватка

У чэрвені 1863 г. асноўныя сілы гарадзенскіх інсургентаў змянілі месца дыслакацыі на Ружанскую пушчу, што ў Слонімскім павеце. Тут адбылося некалькі сутычак з царскім войскам. Найбуйнейшая з іх — бітва каля вёскі Мерачоўшчына (месца нараджэння Тадэвуша Касцюшкі), дзе паўстанцаў атакавалі тры роты генерала А. Эгера. Суцэльнага разгрому асноўных сіл інсургентам у гэтым баі ўдалося пазбегнуць толькі дзякуючы рашучым дзеянням В. Урублеўскага, які тры разы падымаў у атаку касінераў, даючы тым самым магчымасць перагрупавацца рэшце атрада. У далейшым фарміраванне А. Духінскага і В. Урублеўскага дзейнічала сумесна з іншымі партызанскімі злучэннямі пераважна ў паўднёвай частцы губерні.

Ваенным начальнікам Гарадзенскага і Ваўкавыскага паветаў прызначылі Аляксандра Лянкевіча, які ўзяў сабе псеўданім Ляндар. Месцам арганізацыі атрада сталі ваколіцы мястэчка Азёры. У ноч з 1 на 2 траўня ён з 36 партызанамі атакаваў гэты населены пункт. Асноўная мэта аперацыі заключалася ў тым, каб здабыць зброю, якая нібыта захоўвалася на кватэры ляснічага. Пасля ўдалага нападу атрад перайшоў у глыбокія лясы, абраўшы сваёй базай мясцовасць пад назвай «Святыя балоты». Тут да Лянкевіча далучылася больш за 100 ахвотнікаў, пераважна сялян. Аднак як след разгарнуць сваю дзейнасць гэты атрад не паспеў, бо ўжо 4 траўня быў разбіты царскімі войскамі. Пасля чаго Лянкевіч з рэштай людзей перайшоў у Ваўкавыскі павет.

Першая баявая сутычка ваўкавыскіх паўстанцаў з карнымі войскамі адбылася 14 траўня ля вёскі Міхалін. Пад націскам атак казакоў асноўныя сілы інсургентаў былі вымушаны адступаць, падзяліўшыся пры гэтым на дзве часткі: адна пад камандаваннем А. Акінчыца, другая, узначаленая непасрэдна Г. Стравінскім (Млоткам). Аб'яднаныся яны пад Вялікім Кутом, дзе да іх далучыліся рэшткі гарадзенскай партыі А. Лянкевіча, які і ўзначаліў злучэнне. У далейшым баявы шлях атрада ляжаў праз Савіцкую карчму, дзе адбылася чарговая сутычка з урадавымі войскамі яшчэ да схваткі ля Мілавід.

Менавіта пад Мілавідамі, што ў Слонімскім павеце, адбылася найбуйнейшая бітва паўстанцаў з царскімі войскамі на тэрыторыі сённяшняй Беларусі. Паводле загаду гарадзенскага ваеннага камісара А. Духінскага ў гэтым месцы былі сканцэнтраваны сілы гарадзенскага (А. Лянкевіч), ваўкавыскага (Г. Стравінскі), пружанскага (Ф. Влодэк), наваградскага (В. Міладоўскі і ксёндз Ф. Лашкевіч), слонімскага (Ф. Юндзіл і І. Лукашэвіч) атрадаў. Апошні яшчэ толькі знаходзіўся ў фазе фармавання і ў баях да гэтага часу



*Карнелій Пелікша (1823–12.07.1872), шляхціц Слуцкага павета, выконваў абавязкі мінскага цывільнага ваяводы. LVIA. F. 439. Ap. 1. B. 161. L. 12.*

не ўдзельнічаў. Усяго пад Мілавідамі сабралася больш за 800 інсургентаў, агульнае кіраванне над імі прыняў Ляндар. Ён прадставіў аб'яднаныя сілы Кастусю Каліноўскаму, які прыехаў сюды для інспекцыі партызанскага злучэння. На мэце гэтага злучэння быў разгром праціўніка ў паўднёвай частцы губерні, а затым кантроль над усім рэгіёнам.

2 чэрвеня адбылася першая сутычка з калонай пад камандаваннем расійскага падпалкоўніка Булгарына. Паўстанцам удалося ўтрымацца на сваіх пазіцыях. На наступны дзень да царскіх войскаў прыйшло падмацаванне, атакі на пазіцыі партызан узнавіліся. Уначы партызанскае злучэнне панесла значныя страты, паколькі, не пагадзіўшыся з планам бітвы, пазіцыі пакінуў Ф. Влодэк, які адышоў на поўдзень, каб аб'яднацца з Траўгутам і Ваньковічам.

Асноўны бой адбыўся 3 чэрвеня. Нягледзячы на адчувальнае аслабленне шыхтоў паўстанцаў і няспынныя атакі карных войскаў з выкарыстаннем артылерыі, партызаны не здалі свае пазіцыі. На наступным дзень генерал А. Эгер зноў кінуў усе сілы на штурм мілавідскіх умацаванняў, аднак атакаваць не было каго. Уначы паўстанцы пакінулі ранейшае месца дыслакацыі, зноў падзяліўшыся на асобныя атрады. Па-рознаму склаўся лёс гэтых фарміраванняў пасля Мілавід. Частка пад камандаваннем Ф. Юндзіла пачала доўгі рэйд у суседнюю Мінскую губерню, у Пінскі павет, дзе старшынства пераняў Я. Калупайла, галоўнай мэтай якога, хутчэй за ўсё, была падтрымка атрада К. Нарбута.

Пасля свайго вяртання слонімскі атрад некаторы час дзейнічаў у Слонімскім і Ваўкавыскім паветах, а пасля злучыўся з А. Духінскім. Большасць гарадзенскіх паўстанцаў пасля Мілавідскай бітвы дзейнічала ў межах губерні, аднак маштабных сумесных акцый супраць царскіх войскаў, як раней, яны ўжо не праводзілі. Асноўным месцам дыслакацыі партызанскіх сіл у сярэдзіне чэрвеня сталі лясы каля мястэчка Лыскаў (Вялікі Кут), што ў Ваўкавыскім павеце. Тут сабраліся атрады А. Духінскага, Г. Стравінскага, рэшткі атрада А. Лянкевіча. Як узгадвае адзін з памочнікаў В. Урублеўскага І. Арамовіч, у Вялікім Куце «было шумна і весела. Раздаваліся намінацыі падафіцэрам, да Народнага Урада пісаліся рапарты і прадстаўленні на званні афіцэраў, распаўсюджваліся паўстанцкія песні на польскай і беларускай мовах, якія былі створаны паэтам Ражанскім, што змагаўся ў ваўкавыскім атрадзе, і пісаліся адозвы да паветаў Гарадзенскага ваяводства». Адсюль невялікія конныя партыі пад кіраўніцтвам Кабылінскага, Эйтмантовіча здзяйснялі дыверсійныя рэйды па наваколлі: Баяры, Ружаны, Гута, Лыскаў і г. д. Адначасова вялася і вялікая агітацыйная праца сярод мясцовага насельніцтва.

16 чэрвеня карныя войскі атакавалі лагер партызан. Бой цягнуўся да самага вечара, аднак расійскаму падпалкоўніку Блюменталю так і не ўдалося пахіснуць паўстанцкія пазіцыі, і ён быў вымушаны адысці. Май — чэрвень 1863 г. — таксама час найбольшай актыўнасці партызан на поўдні Гарадзенскага ваяводства. Асобныя атрады былі сфарміраваны ў Пружанскім, Брэсцкім, Кобрынскім паветах, сярод якіх сваімі актыўнымі дзеяннямі вылучаўся апошні пад камандаваннем Р. Траўгута.

Аднак, як паказваў агульны ход падзей, у цэлым гарадзенскія паўстанцы не маглі супрацьстаяць рэгулярнай расійскай арміі. Большасць сутыкненняў заканчвалася не на іх карысць. Але пасля кожнай паразы «недабіткі» збіраліся зноў (даволі часта камандзір загадзя паведамляў аб месцы будучага збору), каб працягнуць барацьбу.

У ліпені — жніўні некаторыя партызанскія атрады змянілі тактыку. У першую чаргу гэта тычыцца найбольш буйнога фарміравання А. Духінскага і В. Урублеўскага. Падчас знаходжання атрада ў лагеры ў Глыбокім Куце, што ў Белавежскай пушчы, А. Духінскі ў сярэдзіне жніўня падаў у адстаўку, а пасля выехаў за мяжу. Яго пасаду заняў В. Урублеўскі, які правёў рэарганізацыю штаба, прызначыў новых кіраўнікоў аддзелаў. Аднак павярхоўныя змены не прынеслі адчувальных вынікаў, і тады новы ваенны начальнік Гарадзенскага ваяводства пасунуўся далей. Ён адмовіўся ад ранейшай тактыкі вядзення партызанскай барацьбы вялікімі злучэннямі, разбіўшы іх на дробныя партыі па 20–30 чалавек, што давала больш шансаў пазбегнуць нечаканай

сустрэчы з казакамі і, зразумела, рабіла іх больш мабільнымі.

## Жыццё — Радзіме, гонар — нікому

Фарміраваннем узброеных сіл Ваўкавыскага павета займаўся Густаў Стравінскі (Млотак), былы афіцэр расійскіх войскаў. Яго прыклад не быў адзінкавым. Многія ўраджэнцы Літвы і Беларусі, якія неслі службу ў царскай арміі, не засталіся абыякавымі да падзей, якія адбываліся на іх Радзіме. Сотні салдат і афіцэраў парушылі прысягу і пакінулі свае гарнізоны, каб далучыцца да паўстання, хаця яны, як ніхто іншы, ведалі расійскую ваенную моц знутры і разумелі летуценнасць сваіх намаганняў. Менавіта дзейныя, а таксама адстаўныя афіцэры царскага войска занялі большасць камандных пасад у партызанскіх атрадах Гарадзеншчыны. Што тычыцца непасрэдна Ваўкавыскага павета, то дзейсную дапамогу Г. Стравінскаму ў справе арганізацыі паўстанцкіх сіл аказвалі доктар гэтага павета М. Гліндзіч, а таксама памешчык П. Радавіцкі, які арэндаваў маёнтак каля Шылавіч. Як сведчаць паказанні ўдзельнікаў гэтага атрада, вярбоўка вялася праз асабістыя кантакты, а таксама з дапамогай пісьмовых распараджэнняў, дзе вызначаліся час і месца збору.

На допытах былыя паўстанцы даволі часта паказвалі, што падобныя лісты ім «падкідвалі невядомыя асобы», «заносіла ветрам» і г. д., што, маўляў, у гэтых лістах былі пагрозы іх асабістаму жыццю. Насамрэч падобныя факты сведчаць пра добра наладжаную, разгалінаваную сістэму тайных зносін і нежаданне падсудных прызнаваць сябе звязанымі з паўстанцкай арганізацыяй.



*Баляслаў Свентаржэцкі (1831–1888), памешчык Ігуменскага павета, падчас паўстання — камісар Мінскай губерні. LVIA. F. 439. Ap. 1. B. 161. L. 4.*

Па розных звестках месцам збору ваўкавыскага атрада стаў Янінскі (Ванькоўскі) лес. На пачатак траўня колькасць паўстанцаў дасягала ўжо 150–200 чалавек, а пасля далучэння да іх часткі атрада Самульскага, што дзейнічаў на поўдні Гарадзенскай губерні, колькасць узрасла да 290. Структура партызанскага фарміравання пад камандаваннем Млотка была характэрнай для ўсіх іншых паўстанцкіх партый Гарадзеншчыны. Яно складалася з трох асноўных аддзелаў: стральцоў, конніцы і касінераў. Таксама характэрна, што дзейнасць гэтага атрада (як і ўсіх іншых) не абмяжоўвалася толькі адным паветам, дзе ён быў сфарміраваны, а даволі часта выходзіла за межы нават губерні.

Партызаны Гарадзенскага ваяводства дзейнічалі ў цеснай сувязі з атрадамі Міншчыны, Віленшчыны, Аўгустоўскай губерні, Падляшскага рэгіёна. Многія паўстанцы, што пачыналі свой баявы шлях каля Горадні, Слоніма ці Ваўкавыска, даволі часта ў ходзе ўзброенай барацьбы траплялі пад камандаванне Грома, Тышкі, Колышкі, Віславуха, Сяндэкі, Любіча, Вавёра, Глеба ды іншых, якія змагаліся ў суседніх рэгіёнах і часта ўзаемадзейнічалі як паміж сабой, так і з гарадзенскімі партызанамі. Асобную старонку гэтай барацьбы складаюць баявыя шляхі атрадаў Лідчыны, Наваградчыны, Ашмяншчыны, паветаў, якія ў другой палове XIX ст. уваходзілі ў склад іншых губерняў і, адпаведна, мелі свае асаблівасці разгортвання нацыянальна-вызваленчага руху.

Яшчэ ў лютым пачаў фарміраваць свой атрад Л. Нарбут, якога прызначылі ваенным начальнікам Лідскага павета, што ў Віленскай губерні. У 20-х лічбах лютага 1863 г. пад Эйшышкамі да яго далучылася 80 добраахвотнікаў на чале з ксяндзом Ю. Гарбачэўскім. Месцам дыслакацыі лідскіх партызан на першым этапе была абрана Рудніцкая пушча. Тут 9 сакавіка Л. Нарбут атрымаў сваю першую перамогу. Аднак у красавіку царскія войскі арганізавалі сапраўднае паляванне на лідскіх інсургентаў. Пазбаўлены стратэгічнай ініцыятывы перад праўзыходным у сіле ворагам, Л. Нарбут быў вымушаны ўвесь час манеўраваць. У некалькіх сутычках яму ўдалося пазбегнуць паразы і нават прымусіць ворага адступіць. Аднак 5 мая 1863 г. капітан расійскай арміі А. Цімафееў каля Дубіч (што на самай мяжы Гарадзенскай губерні) здолеў навязаць свае ўмовы бітвы, у якой атрад Л. Нарбута быў разбіты. Камандзір паўстанцаў атрымаў цяжкае раненне, а пасля яго забілі. А. Цімафееў дазволіў пахаваць загінулых у брацкай магіле каля Дубіцкага касцёла. Аднак пазней М. Мураўёў загадаў гэтую магілу зруйнаваць.

Рэшткі лідскіх паўстанцаў узначаліў А. Парадоўскі (Астрога). Некаторы час ён дзейнічаў у раёне Шчучына, Астрына (у гэты час колькасць паўстанцаў дасягнула лічбы 150), а пасля злучэння з гарадзенскім атрадам А. Лянкевіча ў сярэдзіне чэрвеня яны сканцэнтравалі свае сілы ў раёне Азёр (Гарадзенскі павет). Аднак пад націскам урадавых войскаў ужо ў 20-х лічбах месяца яны былі вымушаны перавесці свае сілы ў Аўгустоўскае ваяводства, дзе А. Лянкевіч узначаліў злучэнне, у якое ўвайшлі партызаны Колышкі, Глеба, Любіча, Сяндэкі — разам 800 чалавек.

## Няўдачы

Адной з прычын няўдачы лідскіх паўстанцаў была адсутнасць узаемадзеяння і дапамогі з боку суседніх рэгіёнаў. У адпаведнасці з папярэдне распрацаваным планам дзейсную дапамогу Л. Нарбуту павінны былі аказваць сумежныя паветы — Ашмянскі і Наваградскі. Аднак праз цяжкія абставіны гэтага не адбылося. У першую чаргу не быў рэалізаваны план па канцэнтрацыі сіл паўстанцаў Наваградскага павета. У адрозненне ад Гарадзенскай губерні, на Міншчыне рэвалюцыйная арганізацыя была значна слабейшая і не здолела як след наладзіць мабілізацыю мясцовага насельніцтва.

У сярэдзіне красавіка 1863 г. у наваколлі Наваградка ўтварыліся два невялікія атрады пад кіраўніцтвам К. Шалевіча і ксяндза Ф. Лашкевіча, а таксама некалькі больш дробных «безыменных» партый, якія рушылі на злучэнне ў Налібоцкую пушчу. 19 красавіка на месцы збору ў Ашмянскім павеце іх нечакана атакавалі рускія войскі. Паколькі атрад толькі знаходзіўся ў працэсе фарміравання, то не здолеў аказаць арганізаванага супраціўлення і быў разбіты. Пасля Налібоцкага пабоішча сабрацца і працягнуць барацьбу здолела толькі невялікая група інсургентаў пад камандаваннем ксяндза Ф. Лашкевіча, якога замяніў прыбылы з Мінска Янка Каваль, а таго ў сваю чаргу — В. Міладоўскі. Менавіта на яго чале наваградскія «недабіткі» далучыліся да паўстанцаў Гарадзенскай губерні і ўдзельнічалі ў Мілавідскай бітве.

На тэрыторыі Ашмяншчыны вясной — летам дзейнічалі атрады Г. Чаховіча (Астоі), К. Ясевіча, З. Мінейкі (Баравога). Апошні таксама выконваў функцыю вайсковага начальніка павета. Асаблівасцю паўстанцкага руху ў гэтым рэгіёне было тое, што ён ад самага пачатку разгортваўся не па асобных паветах, а ахопліваў цэлы рэгіён, куды ўваходзілі Свянцянскі, Вілейскі і Ашмянскі паветы. Даволі доўга месцам дыслакацыі гэтых атрадаў была Вішнёўская пушча. Тут правялі структурныя пераўтварэнні ўнутры атрада, які падзялілі на чатыры аддзелы, а камандзірамі



***Мечыслаў Тукала (1817–1883) з жонкай Сюзаннай Багдановіч, вілейскі маршалак, сасланы. LVIA. F. 439. Ap. 1. B. 148. L. 38–38 v.***

прызначылі Янушэвіча, Шаўлевіча, Багушэвіча (Францішак Багушэвіч, будучы паэт) і Парцянка. У адрозненне ад фарміраванняў Гарадзенскага ваяводства на Ашмяншчыне значную ўвагу надавалі навучанню навабранцаў. Някепскай была і матэрыяльная база інсургентаў. У той час як паўстанцы Гарадзенскай губерні адчувалі заўважны недахоп у агнястрэльнай зброі і былі вымушаны карыстацца паляўнічым альбо дзедаўскім арсеналам, большасць партызан Ашмяншчыны мела на ўзбраенні якасныя стрэльбы, а таксама дальнабойныя штуцэры, а ў афіцэраў і падафіцэраў былі рэвальверы. Такую дыспрапорцыю ў забеспячэнні, верагодна, можна растлумачыць тым, што большасць зброі і рыштунку, што закупалася Аддзелам кіраўніцтва правінцыямі Літвы за мяжой, не даходзіла да Гарадзенскіх партызан, а заставалася на Віленшчыне і Ковеншчыне. Асноўным каналам, па якім ажыццяўлялася кантрабанда ўзбраення, была мяжа з Усходняй Прусіяй. Спецыяльныя агенты літоўскага ўрада закупалі і дастаўлялі зброю з нямецкага боку, а пасля па мясцовых каналах яна трапляла ў рукі паўстанцаў.

Узгаданыя вышэй атрады не абмяжоўваліся толькі канцэнтрацыяй сваіх сіл. Урадавыя данясенні занатавалі іх актыўнасць пад Расалішкамі, Мураванай Ашмянкай, Астраўцом, Крэвам, Барунамі, Смаргонню, у Клявіцкіх лясах і іншых мясцовасцях. Аднак у цэлым актыўнасць партызан на Ашмяншчыне была меншай у параўнанні з Гарадзенскім ваяводствам. Падчас вядзення баявых дзеянняў з царскімі войскамі у палон трапіў і быў прыгавораны да расстрэлу З. Мінейка (пасля М. Мураўёў змяніў гэта рашэнне на 12 гадоў

катаргі), здаўся на літасць пераможцаў К. Ясевіч, і толькі Астоя разам са сваімі людзьмі пратрымаўся да сярэдзіны верасня 1863 г. Прыкладна ў гэты ж час распусціў свой атрад В. Урублеўскі. Такім чынам, на тэрыторыі Гарадзеншчыны засталіся дзейнічаць толькі невялікія партызанскія фарміраванні, якія ў стратэгічным плане ўжо нічога не вырашалі.

## Рэпрэсіі

Адной з прычын згасання ўзброенай барацьбы ў другой палове лета — увосень 1863 г. была не толькі вайсковая актыўнасць праціўніка. Царызм выкарыстоўваў самыя розныя сродкі, каб хутка і назаўжды задушыць паўстанне. Заўважным крокам у гэтым кірунку стаў абвешчаны летам 1863 царскі маніфест аб амністыі тых, хто, маўляў, добраахвотна складзе зброю. Па ацэнцы М. Мураўёва, каля 3 тысяч чалавек паддаліся на абяцанні і спынілі партызанскую дзейнасць.

Пасля прызначэння М. Мураўёва віленскім генерал-губернатарам ён таксама ажыццявіў дзейсныя захады па ўзмацненні царскай улады, якая пахіснулася літаральна на ўсіх узроўнях. Асноўным элементам мураўёўскай палітыкі ў краі на гэтым этапе сталі масавыя экзекуцыі, якія мелі публічны, паказальны характар. Улада імкнулася запалохаць, адвярнуць людзей ад удзелу ва ўзброенай барацьбе, прадэманстраваць, што ніхто не застрахаваны ад рэпрэсій.

Адным з галоўных мерапрыемстваў у гэтым кірунку было заснаванне інстытута ваенна-павятовых начальнікаў, якія на месцах сталі праваднікамі палітыкі новага генерал-губернатара. Іх надзялілі шырокімі паўнамоцтвамі, яны карысталіся асабістым даверам М. Мураўёва. Ваенна-павятовым начальнікам акрамя вайсковай сферы была падпарадкавана ўся цывільная і паліцэйская ўлада ў паветах. Але яны не былі ўсяго толькі паслухмянымі праваднікамі лініі віленскага генерал-губернатара. Бо самі, па ўласнай ініцыятыве, стваралі пэўныя элементы рэпрэсіўнай палітыкі. Надзеленыя неабмежаванай уладай у межах павета, ваенныя начальнікі фактычна ператварыліся ў местачковых «мураўёвых» рэгіянальнага маштабу.

Адначасова з фарміраваннем ваенна-паліцэйскай сістэмы кіравання краем М. Мураўёў распачаў карэнныя змены адміністрацыйнага апарату. Тут асноўныя мерапрыемствы прадугледжвалі звальненне з адміністрацыйных пасад асоб «польскага паходжання» (у пераважнай большасці мясцовых каталікоў), іх замянялі ўраджэнцамі Расіі, для якіх прадугледжваліся значныя льготы.

Масавыя звальненні закранулі і галіну адукацыі, а таксама чыгунку, тэлеграф, іншыя стратэгічныя аб'екты. Асноўным прынцыпам фарміравання новай адміністрацыі стала палітычная лаяльнасць прэтэндэнтаў да мерапрыемстваў і паказальных рэпрэсій, якія ажыццяўляў М. Мураўёў. Калі сярод новых стаўленікаў і траплялiся тыя, хто не падзяляў новай палітыкі, то яны доўга не затрымліваліся. Як, напрыклад, гарадзенскі губернатар У. Бабрынскі, які ўжо ў ліпені 1863 г. падаў у адстаўку, матывуючы сваё рашэнне тым, што «лепей пакінуць сваю пасаду, чым дзейнічаць супраць сваіх перакананняў».

Яшчэ папярэднік М. Мураўёва распачаў усёабдымную кампанію па замене асоб, якія выконвалі функцыі міравых пасрэднікаў. А з прыходам новага генерал-губернатара яна яшчэ больш узмацнілася. На час рэарганізацыі ўсе міравыя ўстановы ўвогуле закрылі, а іх функцыі перадалі ваенна-павятовым начальнікам і паліцыі. Наступным крокам стала прызначэнне на гэтыя пасады добранадзейных чыноўнікаў, выхадцаў з цэнтральных губерняў Расіі. У сваіх успамінах М. Мураўёў адзначаў, што да канца 1863 г. «рускія дзеячы па сялянскай справе» былі прызначаны ў большай частцы паветаў. Менавіта міравыя пасрэднікі сталі ці не галоўнымі праваднікамі палітыкі новых віленскіх улад у дачыненні да сялянства. Гэта палітыка была скіравана на ператварэнне сялянскага саслоўя ў асноўную апору царызму ў гэтым



*Эдвард Чапскі (29.05.1819–15.01.1888), граф, сасланы. LVIA. F. 439. Ap. 1. B. 148. L. 19–19 v.*

рэгіёне, на супрацьпастаўленне сялян мясцовым землеўладальнікам. У эканамічнай сферы гэтыя мерапрыемствы знайшлі сваё адлюстраванне ў масавай рэвізіі ўстаўных грамат, а таксама надзяленні зямлёй абеззямеленых сялян да пачатку рэформы 1861 г. за кошт панскай пашы.

Зусім у іншым кірунку рэалізоўвалася палітыка царызму падчас і пасля 1863 г. у дачыненні да мясцовага дваранства. Асноўным складнікам гэтай палітыкі на першапачатковым этапе былі рэпрэсіі. Падчас паўстання М. Мураўёў прапанаваў абкласці ўсіх «польскіх» памешчыкаў краю дзесяціпрацэнтным пазямельным зборам, а палякі-гараджане мусілі плаціць аднапрацэнтны штогадовы збор ад кошту іх дамоў. Напрыклад, за 1866 г. сума такога збору па Гарадзенскай губерні склала 139,7 тысяч рублёў. Гэтыя надзвычайныя кантрыбуцыі адмянілі толькі ў 1897 г. Да ўсяго з прыходам новай адміністрацыі шырокі распаўсюд атрымала сістэма шматлікіх штрафаў, якімі каралі любога за найменшую адміністрацыйную правіннасць ці нават падазрэнне ў нядобранадзейнасці.

Яшчэ адным важным мерапрыемствам царскіх улад, скіраваным на падрыў эканамічных пазіцый мясцовых землеўладальнікаў, стаў секвестр і канфіскацыя іх маёмасці. Цыркулярам віленскага генерал-губернатара ад пачатку чэрвеня 1863 г. начальнікам губерняў прадпісвалася тэрмінова секвестроўваць маёнткі ўсіх асоб, што знаходзіліся пад следствам. Такія ж меры пакарання распаўсюджваліся на зямельныя валоданні тых, хто быў высланы з краю па прыгаворах судоў ці ў адміністрацыйным парадку ці выехаў за мяжу без адпаведнага дазволу ўлад. Акрамя таго, у снежні 1865 г. Аляксандр II зацвердзіў палажэнне, якое абавязвала ўсіх землеўладальнікаў, што былі высланы з краю, у адміністрацыйным парадку прадаць свае як секвестраваныя, так і несеквестраваныя маёнткі ў двухгадовы тэрмін «асобам рускага паходжання». Гэты ж указ забараняў «асобам польскага паходжання» набываць зямлю ў Беларуска-Літоўскім краі.



*Караль Мікуліч, наваградскі маршалак. LVIA. F. 439. Ap. 1. B. 148. L. 134–134 v.*

У рэпрэсіўнай палітыцы ўлад паўсюдна скарыстоўвалася палітычная ссылка. Ні да падзей 1863–1864 гг., ні пасля іх Расійская імперыя не ведала такога маштабнага, прымусовага перасялення людзей з адной часткі імперыі ў другую. Удзельнікаў паўстання ці тых, хто нейкім чынам аказваў ім дапамогу, выказваў спачуванне альбо толькі падазраваўся ў гэтым, — усіх прызнавалі «шкоднымі» элементамі. Тут царскія ўлады выкарыстоўвалі некалькі відаў пакарання, звязаных з перасяленнем у глыб Расіі. Найбольш цяжкім быў прысуд на катаржную працу ў Сібір. Іншымі відамі пакарання была ссылка на пасяленне («водворение») і жыццё ў сібірскіх губернях, высылка ў арыштанцкія роты цывільнага ведамства, ссылка на жыццё ці жыхарства пад наглядам паліцыі ў губерні еўрапейскай часткі Расійскай імперыі. Шмат жыхароў Гарадзенскай губерні выслалі ў так званым адміністрацыйным парадку — без суда і следства, без доказу віны, толькі праз падазрэнне ці напісаны кімсьці данос. Адпраўку ў дзейную армію ўлады выкарыстоўвалі досыць рэдка. Звычайна гэта рабілася як праява адмысловай «ласкі» ці «спагады» ў дачыненні да асуджанага.

Што тычыцца каталікоў-памешчыкаў і шляхты, М. Мураўёў зыходзіў з прынцыпу, што «ўсе яны вінаватыя», таму следства вялося фармальна, без разгляду па сутнасці. Галоўны палявы аўдытар, які ў 1865 г. правяраў працу следчых камісій, адзначаў, што ў многіх справах увогуле няма звестак пра прычыны арышту. Затое пакаранні былі паказальна жорсткімі. Пэўна найбольш трагічнай старонкай у гісторыі тагачасных масавых рэпрэсій была высылка цэлых шляхецкіх аколіц. Паводле прынцыпу калектыўнай адказнасці з тэрыторыі Гарадзенскай губерні ў глыб Расійскай імперыі выселілі жыхароў Яваровўкі, Лукавіцы, Прушанкі, Шчукі (непадалёк ад Скідзеля), Пеняшкі — разам больш за 500 чалавек, у тым ліку і калек, парадзіх, дзяцей, якім споўнілася толькі тры тыдні і г. д. Некаторыя з гэтых аколіц царскія войскі спалілі. Зямлю, дзе яны стаялі, узаралі, а пасля выкарысталі для перасялення рускіх сялян. Акрамя таго, мясцовае вайсковае начальства прапаноўвала выслаць з тэрыторыі губерні яшчэ 12 такіх аколіц, насельніцтва якіх перавышала 1,5 тысячы чалавек. Аднак вышэйшае начальства па розных прычынах не дало на гэта згоды.

## Навязванне «правільнай» веры і адукацыі

Галоўнай рухальнай сілай паўстання М. Мураўёў лічыў акрамя мясцовых памешчыкаў і шляхты каталіцкі касцёл. Таму пасля задушэння ўзброенай барацьбы менавіта касцёл стаў адным з галоўных аб'ектаў рэпрэсіўнай палітыкі расійскага ўрада. Духавенства адпраўлялі ў ссылку і расстрэльвалі, закрывалі касцёлы і кляштары, свецкія ўлады ўмешваліся ў царкоўныя справы і г. д. Усяго за 1864–1867 гг. па Віленскай і Гарадзенскай губернях было скасавана 140 касцёлаў і кляштараў. У Ашмянскім дэканаце з 17 касцёлаў засталося толькі 9, у Гарадзенскім — адпаведна з 25 — 11, у Лідскім — 13 з 20, у Слонімскім — 5 з 33 і г. д. Скасаваныя касцёлы ў асноўным перарабляілі ў праваслаўныя цэрквы.



*Аляксандр Паджэўскі ў арыштанцкім адзенні. LVIA. F. 439. Ap. 1. B. 147. L. 99.*

Адначасова пачаўся працэс пераводу каталікоў у праваслаўе. З аднаго боку, сялян-каталікоў спакушалі сацыяльныя і эканамічныя прэферэнцыі, з другога — на гэтым фронце царызм задзейнічаў моцны адміністрацыйны ціск на ўсіх узроўнях. Як прыклад можна прывесці падзеі ў Слонімскім павеце, дзе, паводле звестак аднаго з карэспандэнтаў газеты «Весть», выкарыстоўваліся «варварскія сродкі, каб прымусіць няшчасных каталікоў пакінуць веру сваіх бацькоў». Ён падрабязна апісваў катаванні голадам і холадам, казацкія нагайкі, што шырока ўжываліся з мэтай павелічэння колькасці праваслаўных вернікаў. У выніку гэтай палітыкі колькасць «праваслаўнага» насельніцтва ў Гарадзенскай губерні з 1863 па 1866 г. павялічылася на 13 462 чалавекі. Аднак колькасныя паказчыкі не заўсёды адлюстроўвалі сапраўдныя змены рэлігійнага характару, што адбываліся ў абшчынах, якія пераходзілі ў праваслаўе. Улады даволі часта канстатавалі, што пасля «добраахвотнага» адрачэння ад каталіцызму жыхары гэтых абшчын прытрымліваліся былых рэлігійных абрадаў ці наогул адмаўляліся ад выканання духоўных адправаў.

Пасля задушэння паўстання на землях Беларусі царскія ўлады пачалі ствараць новую сістэму адукацыі, якая не ўлічвала нацыянальных інтарэсаў большасці насельніцтва краю. «Адукацыя народа, — пісаў М. Мураўёў, — павінна ў сваёй аснове мець умацаванне праваслаўя». Школа ў гэты час становіцца адным з галоўных праваднікоў русіфікатарскай палітыкі ўлад. Той жа Мураўёў адзначаў, што «неабходна паставіць цвёрдую заслону ідэі пра ўвядзенне маларасійскай, беларускай і іншых гаворак і абавязацъ Міністра народнай адукацыі дзейнічаць у духу адзінства Расіі». У адказ на гэта на тэрыторыі Літвы і Беларусі была створана сістэма тайных школ, якія імкнулася да захавання мясцовых этнаканфесійных асаблівасцяў. Афіцыйныя ўлады вялі бязлітасную барацьбу з такімі праявамі грамадскага супраціўлення.

Паўстанне 1863 г. скончылася паразаю. Аднак у свядомасці большасці мясцовага насельніцтва яго кіраўнікі і шараговыя ўдзельнікі засталіся героямі, на прыкладзе якіх вырасла не адно пакаленне. Разам з тым палітыка расійскага ўрада, што была рэалізавана пасля 1863 г., прывяла да значных сацыяльна-эканамічных, этнаканфесійных і культурных змен, якія аказалі значны ўплыў на ўвесь далейшы ход гістарычных падзей у Гарадзенскім рэгіёне.

**P. S.** У часе падрыхтоўкі гэтага матэрыялу аўтарам прагледжана і скарыстана вялікая колькасць тагачасных дакументаў (у большасці сваёй рукапісных), якія знаходзяцца ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ў Горадні, у гістарычных архівах Вільнюса, а таксама іншыя крыніцы.

***Фотаздымкі з фондаў Літоўскага дзяржаўнага гістарычнага архіва падрыхтавала кандыдат гістарычных навук Вольга ГАРБАЧОВА.***

# Вольны чалавек з хутара Багны



Іна Хоміч

Што ведаем мы пра жыццё? Хіба што тое, што хочам ведаць. Доўгі час для мяне, як і для іншых калег, жыццё змяшчаецца ў маніторы камп'ютара. І падаецца звыклым, прадказальным, досыць шэрым.

Але варта толькі адысці ад манітора…

*— Праходзьце, сіньёры! Вой, гаспадыня, колькі людзей да нас прыйшло, выходзь сустракаць! Якая радасць, бо тут і пагутарыць няма з кім. Сіньёра, ну што Вы стаіце, сядайце! А я — не! Я пакуль стаяць больш люблю.*

Сказаць, што гэта ўсё прамаўляе 88-гадовы вясковец, азначае адразу намаляваць вобраз сівога старога, з якім Аляксандр Каленікавіч Батуля не мае нічога агульнага. Аднак па-іншаму не скажаш — шустры маленькі дзядзечка з цікаўнымі вачыма мае менавіта такі ўзрост.

У госці да Аляксандра Каленікавіча цэлая дэлегацыя з Брэста накіраваліся, канешне, не для таго каб падзівіцца на яго жвавасць. Проста мы, удзельнікі праекта «Вёска, якая не павінна знікнуць», ведалі, што на хутары Багны ў Жабінкаўскім раёне жыве чалавек, які падчас вайны быў вывезены ў Германію. Скептычна паглядзелі на дату нараджэння — 1925 год — і вырашылі, што чарговы вязень мала што раскажа. Але прыцягваў антураж. Усе жывуць у вёсках, а Батуля — на хутары. Гарадское ўяўленне адразу намалявала рамантычныя карціны, Багны падаліся нейкім казачным востравам, куды трэба трапіць любым коштам. А тут яшчэ і старшыня сельсавета аўтарытэтна запэўніў, што жыццёвыя сілы Каленікавіча недаацэньваць не варта.

Пейзаж і сапраўды аказаўся маляўнічым. Дамок з пабудовамі выглядаў, як паважны гаспадар навакольнага поля. Расчышчаная дарога — у студзені выпала нямала снегу — паказвала на тое, што старшыня сельсавета прагназаваў нашую зацікаўленасць багнянскім вязнем.

Заходзім у хату. Тут цёпла, смачна шкварчыць на патэльні бульба. Гаспадары, несумненна, радыя гасцям. Мы ўвогуле маглі не тлумачыць, хто мы такія — старых, здаецца, гэта мала цікавіла. Як быццам так і трэба, калі пяць чалавек раптоўна заходзяць у хату.

— Аляксандр Каленікавіч, Вы нам раскажаце пра сябе? — здалёк пачынае каардынатар праекта Ларыса Быцко.

*— Расказаць магу, але ці зацікавіць гэта вас. Усё жыццё працаваў у калгасе, нічога асаблівага не дабіўся. Ведаеце ж, час быў такі… Усюды біяграфію трэба было пісаць. А біяграфія ў мяне падпсаваная.*

*Я быў у сям'і старэйшы з пяці дзяцей. 16 гадоў ужо меў. Таму, калі солтыс прынёс павестку на працы ў Германію, ехаць адназначна выпадала мне.*

*Спачатку нас завезлі ў Жабінку. Падагналі вагоны, загналі нас туды, дротам дзверы завязалі, сядзім. На даху ахоўнікі з аўтаматамі, таму жаданне ўцячы не з'яўлялася.*

*Завезлі ў Брэст, у сінагогу, цяпер там кінатэатр «Беларусь» знаходзіцца. Саломы там было наслана, там мы і начавалі. Раніцай нас памылі, пастрыглі, памазалі* (патравілі вошай. — *Аўт.*) — *і зноў у вагоны. Толькі на гэты раз, калі заходзіш, то табе даюць буханку хлеба і кальцо каўбасы. Вагоны таварныя.*

*Завезлі ў Гродна. Там нас зноў «пасмажылі», яшчэ больш. Трэцяя прапарка была ўжо на нямецкай тэрыторыі. Быў і медыцынскі агляд. Усе ўрачы ў ваеннай форме. Жанчын правяралі жанчыны, мужчын — мужчыны.*

*Ехалі доўга. Часам цягнік спыняўся, да нас прыходзілі і пыталіся, хто хоча працаваць на сельскай гаспадарцы. З другіх вагонаў выходзілі, а сярод нас быў мужык гадоў пад 40. Ён сказаў: «Пакуль вязуць — едзем. Яшчэ напрацуемся». Ну мы і ехалі.*

*Прывезлі нас у горад Кіль. Партовы горад. У той час там было паўмільёна насельніцтва і шмат заводаў. Мы бачым, што далей чыгункі няма. Пагрузілі нас на баржу і павезлі праз заліў. А мы ж не ведаем, дзе мы. Кацялком ваду зачарпнулі і зразумелі, што яна марская. Канчатковым пунктам нашага падарожжа аказаўся прыгарад Кіля Фрыдрыхсарт, дзе мы мусілі працаваць на адным з deutsche Werke* (нямецкі завод. — *Аўт.*).


Чалавек зайздроснай энергіі

Пакуль Аляксандр Каленікавіч выцягвае з памяці дэталі сваёй «падпсаванай» біяграфіі, яго жонка Лідзія Нікіфараўна слухае яго яшчэ больш уважліва, чым мы. Пры тым што гладкая мова апавядальніка выдае, што гісторыя расказваецца не ўпершыню, і сіньёра Батуля мусіць ведаць яе не горш за мужа. Аднак ёй і ў галаву не прыходзіць яго перапыняць, аўтарытэтна, на правах шматгадовай спадарожніцы жыцця, нешта дадаваць. І ў гэтым адчуваецца пэўная гармонія і сакрэт гэтай дзіўнай пары, што абрала жыццё па-за ўпарадкаваным грамадствам. І неяк зусім не здзіўляе кароткае адступленне ад тэмы Аляксандра Каленікавіча: «Больш за 50 гадоў разам. А я яе і дагэтуль люблю!» На што Лідзія Нікіфараўна толькі ўсміхаецца. І далей слухае мужавы прыгоды.

*— Ноч пераначавалі ў кар'еры. А раніцай прывезлі баракі. Сценкі, падлога, дах — усё гатовае, заставалася толькі сабраць. 16 баракаў, у кожным — 3 пакоі, 3 калідоры. У пакоі — 10 двухпавярховых ложкаў, 10 шафаў, кожнаму — крэсла, адзін вялікі стол на ўсіх і печка пасярэдзіне.*

*На другі дзень нас пастроілі ў шарэнгу і пытаюць: «Токары, слесары, фрэзероўшчыкі ёсць?» Пасля: «Хто хоча вучыцца па гэтых спецыяльнасцях?» Ну я думаю: вучыцца — не працаваць. Праўда, што такое фрэзероўшчык, і разумення не меў. Гэтак жа, як і што такое токар. У нас жа вытворчасцяў ніякіх не было на той момант, калі нас вывозілі. Мы наконт гэтага былі Holzkopf, як немец кажа, — «драўляная галава». Слесар, думаю, напэўна, абручы на бочкі робіць. Запісаўся слесарам.*

*Завялі на завод. На першым паверсе нямецкія падлеткі вучыліся, на другім — мы. Вучылі, ставілі адзнакі і адбіралі лепшых. Завод выпускаў тарпеды марскога базіравання. Мы павінны былі рамантаваць станкі.*

*У немцаў праца... каб у нас так! У іх жа не было нормы. Пагадзінная праца. Заходзіш у цэх, вісіць гадзіннік, і карткавая сістэма. Картку ўстаўляеш — адбіваецца час, калі я прыйшоў.*

*Кожную суботу плацілі грошы. Усё хутка: прыйшоў чалавек, карткі сабраў, палічыў гадзіны і выдаў грошы. Хадзіць нікуды не трэба — касір прынясе на тваё рабочае месца. У разліковым цэху працавалі ўсяго два чалавекі і з усім спраўляліся. Не тое, што ў нас, — цэлыя аддзелы бухгалтараў, а толку значна менш.*

*Паўгода нас нікуды не пускалі, а пасля апранулі, бо мы ж значна ад іх адрозніваліся, абадранцамі прыехалі, і нас пачалі выпускаць. Хадзіць можна было ўсюды, нават за горад выязджаць, але трэба было паспець у лагер да камендацкай гадзіны.*

*І тады ж прывезлі жанчын. Немцы ж — не дурні. Некаторыя без жанчын і не ўмываліся. А каб яшчэ і зубы чысцілі... Дарэчы, там я ўпершыню ўбачыў зубную пасту. У нас тут яшчэ парашок быў.*

*І тут жыццё пайшло весялей. У клубе нават сцэнкі ставілі.*

Увогуле, мала зразумела, як чалавек з такім нетыповым для савецкага часу мысленнем дажыў да нашых дзён. Дапусцім, што пасля вяртання ён не так смела супастаўляў нямецкае і савецкае жыццё не на карысць апошняму. Аднак відавочна, што не толькі цяпер з'явілася ў ім гэтая здольнасць да канструктыўнага аналізу.

Ды Аляксандр Батуля сам тлумачыць, чаму застаўся цэлым пасля вяртання. Спачатку выратавала армія, а пасля, калі яго разам з жонкай мусілі вывезці ў Сібір, памёр Сталін.

*— Народ быў добры, гэта ідэалогія была дрэнная. Асабліва спачувалі нам старэйшыя людзі.*

*Я ўжо быў токарам. Прыйшлі і спыталі: «Willst du Dreher sein?» — «Ja, ich will!»* («Хочаш быць токарам?» — «Так, хачу!» — *Аўт.*) *Мне ж цікава было, усё хацелася паспрабаваць. Часта хадзіў у Aufsgabe. Гэта памяшканне, дзе выдавалі інструмент. Аднойчы заходжу, даю, як заўсёды, свой жэтон з нумарам 600005 і пішу Zettel* (запіску. — *Аўт.*), *што мне трэба. А дзед, які інструмент выдае, шэпча, што гітлераўцы пад Сталінградам пацярпелі крах. Старыя немцы не любілі Гітлера. Шэпча, колькі ў палон трапіла, колькі сярод палонных генералаў. І тут чуе, што нехта ідзе і адразу гучным голасам: «Was willst du?»* («Што ты хочаш?» — *Аўт.*) *— каб ніхто нічога не западозрыў.*

*А вось нацыянал-сацыялістаў, партыйных, мы баяліся. Яны насілі значкі са свастыкай, мы іх так і пазнавалі. Хаця нямецкія партыйныя таксама адрозніваліся ад нашых.*

*Быў такі выпадак. Наш наладчык Вілі Петэрсан папрасіў неяк дапамагчы ўскапаць агарод. А ў іх у кожнага было па 15 сотак за горадам. У нас тады 6 давалі. Напэўна, таму што ў нас зямлі менш, чым у іх.* (Смяецца.) *Ну і вось трэба было гною прывезці. Мы прыехалі, нагрузілі тачку. Удвух цягнем, Петэрсан ззаду падштурхоўвае віламі.*

*Тут бачым: начальнік цэха Гарнт сам такі ж вазок цягне. Мы кажам: «А што ж такое? Лобога папрасіў бы, і яму дапамаглі б». «А ён партыйны», — адказвае Петэрсан. Мы не разумеем, прычым тут гэта. А аказваецца, яму нельга было нас выкарыстоўваць, ён сам мусіў на сваім участку працаваць. Нам гэта было вельмі дзіўна, мы ж бачылі, што ў нас на радзіме партыйныя якраз найбольш і выкарыстоўвалі чужую працу. Сказалі пра гэта Вілі — ён смяяўся.*

*Маладыя немцы — тыя былі ўжо інакш выхаваныя. Неяк адзін немец папрасіў нас бацькам змалаціць ячмень, дык яго дзеці не хацелі з намі за адзін стол садзіцца. Але стары сказаў: «Zusammen arbeiten — zusammen essen!»* («Разам працаваць — разам есці!» — *Аўт.*) *— і тыя падпарадкаваліся.*



*Каленікавіч з жонкай Лідзіяй Нікіфіраўнай*

*Гітлераўская ідэалогія не прыжывалася ў старых, але на маладых пакрысе ўплывала.*

Чым больш апавядальнік расказвае, тым больш мы хвалюемся за бульбу, якая ўжо з паўгадзіны актыўна шкварчыць на патэльні. Не вытрымліваем і перабіваем яго каштоўныя ўспаміны пытаннем пра далейшы лёс бульбы. Каленікавіч супакойвае нас, што нічога з ёй не станецца. Праўда, усё ж адкрывае крышку і крыху яе варочае.

*— Нам з жонкай вельмі бульбы смажанай захацелася. Даўно не елі. Я з'ездзіў у горад за кефірам, і вось гатуем. Мая гаспадыня на ногі хварэе, то амаль і не выходзіць з хаты. А я яшчэ раз'язджаю. Калі ў Жабінку, а калі і ў Брэст.*

Каленікавіч нас запэўнівае, што і дзеці на старых не забываюцца. І, нібы ў пацвярджэнне гэтаму, на іх мабільны нехта тэлефануе, і Лідзія Нікіфараўна радасна распавядае пра тое, што ўсё добра, што ў хаце поўна гасцей, што дзед расказвае пра Германію.

*— Кармілі дрэнна. Буханка хлеба 1200 г на чацвярых ды чарпак баланды ў дзень. Таму ў вольны час я заўсёды накіроўваўся на пошукі ежы. Грошы мы зараблялі, ды траціць іх асабліва не было дзе, акрамя самога лагера. У Нямеччыне ж усё было па картках.*

*Плацілі нам па сто марак у месяц. Немцы атрымлівалі 400–500 марак. Касцюм каштаваў 5–12 марак. Буханка хлеба — 50 пфенігаў, бутэлька вады — 10. Немцы нядрэнна жылі. Ніколі не спяшаліся. Часам і мне казалі: «Landsamer, Alex! Wir haben Zeit!»* («Павольней, Алекс! У нас ёсць час! — *Аўт.*)

*Самі яны елі тры разы. 8. 30 — Frühstück. Ніводзін станок не павінен шумець, пакуль ядуць. 11. 30–12. 00 — абед. 15. 30–15. 45 — яшчэ адзін перапынак.*

*У канцлагер забіралі ноччу. Той чалавек з Жабінкі, які быў сярод нас старэйшы, Аляксей Дзмітрук яго звалі, не вярнуўся. Яго накіравалі ў сталеліцейны цэх, гэта вельмі цяжкая праца. А кармілі ж дрэнна. Ён захварэў, яго перавялі на лягчэйшую працу, ды раніцай ён не выйшаў на яе. Ноччу забралі.*

— А вось Вы кажаце, што Германія Вам падпсавала біяграфію. Дык куды ж Вы змаглі ўладкавацца пасля вяртання?

*— Ахвотна бралі толькі ў міліцыю, бо тады яшчэ шмат людзей са зброяй па лясах хадзіла. Гэта і Армія Краёва польская, і УПА. Пайшоў у калгас рахункаводам.*

Праўда, доўга працаваць там ён не змог. У Нямеччыне быў вязнем — і то нешта плацілі, а тут нічога, адны палачкі. Батуля ўгаварыў брыгадзіра выдаць яму дазвол на выхад з калгаса і перайшоў працаваць у МТС. Там таксама былі працадні, але гарантыйныя, за якія плацілі грошы. Як толькі ў Пінску была арганізаваная сельскагаспадарчая вучэльня, Аляксандр Батуля скарыстаўся шансам, каб атрымаць яшчэ адну прафесію. Астатняе жыццё працаваў на трактары і разам з жонкай гадаваў дзяцей.

*— Ніхто не прыйшоў нас вызваляць. 2 траўня была капітуляцыя, вывесілі белыя сцягі. Ужо святло па вечарах гарэла — адмянілі святломаскіроўку, на ноч аканіцы мы не зачынялі. І тут урываюцца нашыя ахоўнікі і крычаць: «Усе ў Schatraum! Зараз будзе налёт!» Хацелі сагнаць у бамбасховішча. Але вопытныя людзі скамандавалі не ісці. У такіх сітуацыях камандзіры хутка знаходзяцца. Вырашылі, калі будуць гнаць сілай, возьмем камяні і будзем абараняцца. Так яны і пайшлі ні з чым.*

*А на другі дзень прыйшоў былы начальнік каравула, немец, і сказаў: «Правільна зрабілі, што не пайшлі. Падрыўнікі вас там ужо чакалі». А колькі людзей грузілі на баржы і тапілі ў моры! Замяталі сляды.*

*10 чалавек вырваліся з лагера і знайшлі амерыканскую часць. На другі дзень прыехала машына кшталту КамАЗа. 8 чалавек у ёй. Яны нас і вызвалілі.*

*Вось там пайшло жыццё! Мяса было столькі — у катлах не пераварочвалася. З завода спірту столькі прынеслі, што ўжо і вады нельга было знайсці ў бараках — усюды адзін спірт.*

*Цэлы месяц мы там яшчэ жылі. А адсюль* (з СССР. — *Аўт.*) *ужо прыехалі вярбоўшчыкі: «Вашыя маладыя рукі радзіма чакае!» Дзяўчатыўкраінкі пытаюць у іх: «А скажіть, колгоспы будуть у нас? Бо як будуть колгоспы, не поїдемо додому». Ім казалі, што не будзе. Я тады не ведаў нават, што гэта такое... Затое цяпер кожны ведае, што такое калгас.*

*Ехаць мы маглі куды хочаш. Я прапаноўваў свайму сябру ехаць у ЗША, у мяне там дзядзька быў. Але яго цягнула дадому.*

*І вось ідуць Студэбекеры. Бяруць па 16 чалавек, па колькасці адкідных сядзенняў у машыне. І мяшкі з намі вялізныя з дабром. Мы ж усю ваколіцу аблазілі.*

*Давезлі да мяжы з савецкай часткай Германіі. Пагрузілі ў цягнік, пераправілі на савецкі бок — і зноў Студэбекеры. Але запіхваюць нас ужо як мага больш у машыну, не па 16 чалавек. Адвезлі ў Расток, за 100 км. А тут мітынг распачаўся: «Вы вінаватыя!» Думаю: усё, трапілі...*

*Нас пачалі сартаваць па ўзросце, па месцы жыхарства, па тым, служыў ці не. Мне аб'явілі: 419-ы запасны стралковы полк. Сапёрны батальён. Сапёр я ўжо.*

Усю гісторыю — а сядзім мы ўжо другую гадзіну — Каленікавіч расказвае стоячы, так і не



*Радавое гняздо Батуляў*

згадзіўшыся прысесці: «Сядзіце самі, сіньёры». Гэта надае яго аповеду дадатковай эмацыйнасці. Аляксандр Батуля актыўна жэстыкулюе, стараецца перадаваць манеру маўлення сваіх герояў. Адсюль і пастаянныя нямецкія словы і выразы, якія ў яго фенаменальнай памяці неадрыўна звязаліся з людзьмі, што іх прамаўлялі.

Расказвае Каленікавіч бойка. Што мала характэрна для паджылых людзей — не адступаючы ад думкі, нават калі мы перабіваем яго пытаннем не ў тэму. З гумарам абмалёўвае як сябе, 16–19-гадовага юнака, так і сваіх гаспадароў. Не важна, ці то немцы, ці то ці рускія.

*— Нам кажуць: «Вам трэба выкупіць сваю віну. Пойдзеце дадому пешшу. А ў паходзе і іголка цяжкая». Прымусілі пакінуць усё, што мы набралі дахаты, ведаючы, што там гола.*

*Апрануў новы касцюм, новую бялізну, абутак. Ідзём, начуем як ёсць, проста ў полі. А ў мяне была з сабой карта. Бачу, ужо хутка Варшава, радуюся, што там і дом недалёка. Але тут мы пачынаем ад Варшавы адыходзіць... Карацей, вярнулі нас у тое ж месца, адкуль прыйшлі. Такое было пакаранне — некалькі соцень кіламетраў пешшу прайсці.*

*Мы ва Усходняй Германіі. У вёсках амаль нікога не засталося, і нас паставілі нарыхтоўваць збожжа для Расіі. Кормяць зноў баландай — ужо ў Савецкай Арміі. І тут норму давай! Спалі ў полі, ужо і вошы пачалі з'ўляцца.*

*Пасля мне зноў пашанцавала. Трапіў у групу для адпраўкі на дацкі востраў Борнхальм. Вось тут нас нарэшце адвезлі ў лазню, апранулі ды пагрузілі на карабель.*

Служба ў Даніі — асобная прыгода ў жыцці Аляксандра Батулі. І там ён не стамляўся падмячаць і ацэньваць тое, чаго не было на радзіме. Карыстанне прыродным газам, адсутнасць крадзяжоў, легальная прастытуцыя...

А потым Каленікавіч вярнуўся на Берасцейшчыну, завёў сям'ю і проста працаваў. Пасля ўсіх падарожжаў яму магло быць сумна. А можа, і не было, улічваючы яго характар.

Арыгінальны тып, гэты былы вязень з хутара Багны.

***Фота аўтара***

# «Пятница» и читатели

**В 70-е годы уже прошлого (как время бежит!) века в газете «Знамя юности» сформировалась уникальная команда. Одно неполное перечисление имен даст некоторое представление о нас: Валерий Холод, Александр Станюта, Иосиф Калюта, Владимир Левин, Галина Айзенштадт, Ядвига Холява, Константин Тарасов, Евгений Будинас, Борис Пастернак, Владимир Некляев… Список можно продолжать и продолжать. А были еще и замечательные нештатные авторы: Отто Новожилов, Александр Алексейчик, художник Евгений Царьков, будущий знаменитый драматург Алексей Дударев и многие другие, боюсь упустить кого-либо из памяти и этим обидеть.**

**Но кое-что в памяти все-таки удержалось, кое-какие вырезки «Пятницы» — отдела сатиры и юмора, который мы все вместе придумали, — остались. И вот я предлагаю на суд сегодняшних читателей отрывки из того, что мы тогда творили.**

*С уважением,*
*Виктор ЛЕДЕНЕВ,*
*более десяти лет проработавший в газете «Знамя юности», член БАЖ и Союза белорусских писателей*



Инициатором, душой и активным автором рубрики стал ученый Отто Новожилов. На встречах читателей с авторами «Пятницы» ему часто задавали один и тот же вопрос: «Отто Новожилов — это ваш псевдоним или настоящее имя?» На что Отто отвечал: «Это мое настоящее имя, которым я пользуюсь как псевдонимом». Именно Отто и придумал первую сенсацию «Пятницы».

В газете появилось следующее объявление: «Один из сотрудников "Пятницы" вчера потерял рубль серии АН665544 и с номером 44466677788. Нашедшего просят прислать искомый рубль в редакцию». А через недели три-четыре в газете вновь появилось сообщение: «Мы опубликовали объявление о потере рубля. Читатели откликнулись на просьбу и прислали в редакцию 645 рублей. Спасибо. Однако указанного рубля среди них не оказалось. Так как читатели присылали рубли, не указывая обратного адреса, правление клуба "Пятница" не знает, что делать с присланными рублями, которые захламляют помещение».

Успех второго сообщения оказался неожиданным для нас. В письмах предлагалось самое простое решение: коль вы не знаете, что делать с деньгами, и они мешают вам работать, пришлите их мне... Дескать, не хватает на телевизор, еду, водку и т. д. — нужды были весьма разнообразными.

Такая реакция нас слегка озадачила, мы-то считали, что наши читатели обладают хотя бы элементарным чувством юмора. Увы. Однако розыгрыши мы продолжали.

Следующий состоял в том, что мы опубликовали фотографию человека, парящего в воздухе. Снимок был сделан просто — фотографию спортсмена, прыгающего на батуте, отрезали от антуража. Подпись гласила: «Позор гражданину П. Мобилю, который, научившись летать усилием воли, парил вокруг Минской телевизионной башни и создавал помехи на экранах телевизоров».

Казалось бы, такая информация могла вызвать только смех, но не тут-то было. Мы стали получать письма, в которых любознательные читатели спрашивали, как бы и им научиться так летать, почему власти не запрещают такие полеты. А от одного рабочего коллектива мы получили письмо на служебном бланке, в котором сообщалось, что информация о чудесном полете обсуждалась в цехе на политинформации, и нас просили рассказать подробнее о замечательном летчике П. Мобиле.

Мы опубликовали наиболее интересные места из этих писем и учредили Мобилевскую премию — за полное отсутствие чувства юмора...

# Загадки для науки



Как-то я нашел в польском журнале «Szpilki» интересный фотомонтаж — в единое целое были соединены туловище полосатого окуня с головой такого же полосатого котенка. Забавная композиция. И вот этот снимок публикуется в «Пятнице» со следующим текстом: «Ученики Муховичской школы поймали в Минском море любопытное животное. Строением оно напоминает окуня, однако голова у него кошачья. Животное живет в школьном аквариуме, питается мышами и мечет икру в баночках расфасовкой пятьдесят граммов».

Далее следовал комментарий нашего придуманного персонажа, консультанта по научным вопросам В. П. Петухова. Владимир Порфирьевич серьезно объяснил: «Ничего удивительного в животном нет. Это обыкновенный морской кот. Так сказать, Morskoj kot vulgaris. Эти ласковые животные давно известны науке и служат предметом любительского лова. Рыбаки ловят котов на творожные сырки в шоколаде, баночки со сметаной или на молоко в пакетах. Некоторые, правда, применяют и браконьерские способы лова — выходят к кромке воды и громко кричат "кис-кис!". Коты стаями выходят на берег, где становятся легкой добычей. В основном, браконьеры ловят котов из-за их весьма ценной шкуры. Из нее делают плащи "болонья"».

Одна читательница про болонью не поняла и попросила в письме выслать ей три сотни шкурок на... шубу. Но более всего нас поразил звонок заместителя директора пансионата «Юность», который располагался на Минском море. Директор слезно просил кого-нибудь из редакции разъяснить некоторым доверчивым читателям, что сообщения о морских котах — просто шутка, не более. Выяснилось, что в пансионате работала бригада рабочих-строителей из Молдавии. Вот эти ребята, вырезав из газеты клочок с сообщением (неясно было, что это из «Пятницы»), требовали от дирекции выдать им удочки, чтобы они могли наловить ценных котов в подарки свои женам...

В другом случае реакция читателя привела всю редакцию газеты в замешательство. А очередная сенсация была такая. Мы поместили две фотографии: на одной была обычная курица, на другой — красотка из модного журнала. Под снимками было пояснение, что курица — слева. А далее шло сенсационное сообщение, что на Булыгинской птицефабрике в городе Муховичи появилась курица, которая несет яйца со штампом «диетическое», причем дата указывается абсолютно точно. Научный консультант В. П. Петухов тут же сообщал, что в этом факте нет ничего сенсационного, так как во всех живых организмах находятся естественные биологические часы, правда, не все умеют ими пользоваться. А вот как образуются в организме курицы арабские и римские цифры, пока остается загадкой.

Шутка считалась веселой, пока к редактору во время традиционной утренней «летучки» не обратился заведующий отделом военно-патриотического воспитания Володя Левин. Он показал письмо и спросил, что с ним делать. Потом в полной тишине зачитал его. Некая гражданка Булыгина писала, что ее муж погиб во время войны, и вот только теперь она узнала, что в Муховичах находится птицефабрика его имени... Редколлегия молчала. А что, спрашивается, сказать? Что это шутка? Что Муховичей нет ни на одной карте?

Я сегодня не помню, как Володя выкрутился, но в то время мы чувствовали себя не в своей тарелке.

# А вы давно бывали в Муховичах?

Кстати, о Муховичах. Это был собственный город «Пятницы», в котором происходили самые разные, в том числе и фантастические, события. Мы создали его по образцу и подобию знаменитого города Колоколамска, придуманного великими Ильфом и Петровым.

В наших Муховичах происходили невероятные события. Например, на Муховичском стадионе был установлен мировой рекорд по прыжкам в высоту — 2 с половиной метра! Однако, сообщала «Пятница», международная федерация не засчитала мировое достижение, мотивируя это тем, что рекорд был установлен с нарушением стандартов и правил: местный бегун в забеге на 110 метров с барьерами вынужденно преодолел нестандартный барьер, установленный пьяным работником стадиона...

Именно в Муховичах жил замечательный человек, бухгалтер Питиримов. Дело в том, что в те времена много писали о всяких экстрасенсах. Особенно была популярна женщина, осязавшая различные цвета. Так вот, товарищ Питиримов не только различал цвета на ощупь, но мог бегло читать газету, сидя на ней...

Эту веселую шутку придумал ныне известный белорусский поэт Владимир Некляев.

Одну смешную фотографию мы использовали дважды. На фото был здоровенный орангутанг (или горилла), опирающийся на обыкновенную лопату. Причем, примат смотрел прямо в объектив. Первый раз мы сообщили, что в НИИ человека (был и такой институт в Муховичах) проводятся опыты по эволюции человека в обезьяну и наоборот, а на снимке изображен тунеядец Иванов, проявляющий первые признаки трудолюбия.

В следующий раз убрали с фото лопату, я пририсовал футбольные ворота, а обезьяна, словно вратарь, всматривалась в действия игроков своей команды. Текст сообщал, что в городе Муховичи некто Вавилий Зубец, взрыхляя почву на приусадебном участке, нашел фотографию, относящуюся к X веку до нашей эры. Вот эта фотография! Научный консультант В. П. Петухов поспешил сообщить читателям: фотография — свидетельство, которое развенчивает миф о том, что древнейшая игра человечества — шахматы, ведь на самом деле — футбол!

Посыпались письма. Автор одного из них негодовал: мол, как же могла сохраниться фотография, ведь в доисторические времена люди не знали бумаги! На этот нехороший выпад наш научный консультант сообщил, что изображение было обнаружено на огромном камне, таким образом мы имеем единственный в своем роде образец наскальной фотографии... В другом письме со всей серьезностью нас уличали в том, что футбол никак не мог быть первой в мире игрой, так как он состоял бы исключительно из одних штрафных ударов. Ведь на снимке видно, что у первого в мире футболиста все четыре конечности — руки! Следовательно, каждый удар наказывался бы штрафным. Из этого следует, что самая древняя игра — гандбол.

В общем, веселились и мы, и наши читатели.

## ВАСЯ

Замечательным изобретением «Пятницы», так сказать, вершиной ее технического творчества стал ВАСЯ. Так мы назвали сокращенно Всезнающего Анализатора Сложных Явлений. Задолго до появления в мире так называемых компьютерных или программистских анекдотов мы использовали как повод для шутки формальный, «машинный» подход к любому вопросу. И смешили людей.

Однажды в газете появилось сообщение, что комсомольцы Минского завода ЭВМ на субботнике изготовили для «Пятницы» особый компьютер, способный отвечать на вопросы любой сложности. И подарили его нам. Так у нас появилась новая рубрика — «ВАСЯ».

Вопросы к ВАСЕ посыпались тоннами. Естественно, мы не могли ответить на все, но выбирали наиболее часто повторяющиеся или самые глупые. Благо, читатели нам помогали.

К тому времени, когда появился ВАСЯ, «Пятница» часто и успешно встречалась с читателями. Мы выступили практически во всех вузах Минска, выезжали в Гомель, Брест, Гродно, Бобруйск, другие города. Венцом же наших встреч с читателями стало пятилетие нашего клуба, которое мы отметили во Дворце искусства Минска. На этой встрече в первый и последний раз был исполнен «Первый доклад для двух докладчиков с президиумом». Я и Отто Новожилов стояли на отдельных трибунах и в два голоса зачитали отчет «Пятницы» за пять лет. Отто — как председатель клуба, а я — как человек, который отвечает за все, что натворила «Пятница»...

Но наиболее часто мы выступали в пансионате «Юность» на Минском море. Дело в том, что в пансионат приезжала молодежь со всего Советского Союза, и состав отдыхающих сменялся каждые две недели. Так что мы не рисковали встретиться дважды с одними и теми же зрителями.

В «Юности» мы близко познакомились с «Песнярами», которые тоже частенько репетировали там. Как говорил Володя Мулявин, подальше от начальства. А начальники любили приходить на репетиции «Песняров», когда те работали в городе. И, вместо того чтобы слушать и наслаждаться виртуозной работой музыкантов, начальники очень любили давать советы. Но этого не любили Мулявин и его ребята. Зато мы вовсю наслаждались их замечательным мастерством, видели, каким тяжким трудом дается та легкость, с которой музыканты исполняли на сценах мира самые сложные вещи. Видели беспощадность Владимира Мулявина к себе и своим друзьям на репетициях...

Вернемся, впрочем, к «Пятнице». Одно дело — выступать перед студентами, но мы, жалкие любители, набрались наглости и начали встречаться с актерами и даже эстрадными артистами. А это, сами понимаете, все равно что штрафовать милиционера или выдергивать зуб у дантиста. Однако те встречи были теплыми и смешными.

В те годы самыми модными у парней были длинные волосы а-ля «Битлз», но Отто Новожилов рано начал лысеть и потому брил голову наголо, чем походил на знаменитого Юла Бриннера из «Великолепной семерки». Все остальные были волосатыми. У Володи Некляева была пышная прическа из русых волос, напоминавшая своей законченностью парик. Что ехидно отметили наши читатели на одной из встреч: «А правда ли, что у

Некляева на голове парик?» Мы ответили: «Увы, парик — штука дорогая, и на всю "Пятницу" у нас всего один. Мы его носим по очереди. Сегодня он на Новожилове...»

Но я отвлекся. Итак, ВАСЯ. Эта рубрика появлялась почти в каждом выпуске «Пятницы». Когда ВАСИ не было, правление клуба сообщало, что он отключил себя на переучет электронов и дырок... Если иногда случалось выходить в воскресенье, то ВАСЯ предварительно переименовывал дни недели. Так, понедельник был первой пятницей, а воскресенье — седьмой. Все правила «Пятницы» были соблюдены.

ВАСЯ, которого иногда называли не Всезнающим, а Всесоюзным Анализатором, исправно отвечал на все вопросы, которые ему подкидывали. В силу своего машинного мышления ВАСЯ предлагал все объединять и модернизировать. Особенно в спорте. Например, ВАСЯ предложил, чтобы в конце забега на сто метров спортсмен прыгал в длину (чего столько бежать зря!); предлагал прыгать на лыжах с трамплина в прорубь; чтобы исключить многочисленные ничьи в шахматах, предложил соединить шахматы с фехтованием на шпагах, а в высоту прыгать с батута. Неплохо было бы объединить хоккей с боксом или карате, а на футбольных воротах передвинуть сетку на передние штанги... Словом, у него всегда хватало блестящих идей. Но особенно красноречив был ВАСЯ в делах любовных, и скучать ему не приходилось. Девушки буквально забрасывали его разными пикантными вопросами, и ВАСЯ с честью выходил из любого положения.

Вот несколько примеров. К сожалению, я не имею доступа к архиву газеты и расскажу только то, что сохранилось в моем личном архиве и памяти.

***Вопрос. ВАСЯ, почему люди, когда целуются, закрывают глаза?***
*ВАСЯ. Чтобы не отвлекаться.*

***Вопрос. Я подарил девушке свою фотографию, а она на это ноль внимания...***
*ВАСЯ. Подарите ей что-нибудь более существенное.*

***Вопрос. Что делать, когда тебя целует парень: обнимать его или держать руки по швам?***
*ВАСЯ. Если целует старший по званию, то по швам.*

***Вопрос. ВАСЯ, а можно ли любить при температуре 30 градусов ниже нуля?***
*ВАСЯ. Можно. Если это не температура тела.*

***Вопрос. А правда, что любви все возрасты покорны?***
*ВАСЯ. Правда. Но она не всем возрастам покорна.*

Вообще, ВАСЯ не робел перед самыми каверзными вопросами.

***Вопрос. ВАСЯ, у меня беда — я все туфли снашиваю на одну сторону.***
*ВАСЯ. Раз в неделю меняйте туфли на ногах местами.*

***Вопрос. Почему в сказке дед и баба плачут, когда яичко разбилось? Они же сами хотели его разбить.***
*ВАСЯ. Да, но не хотели вдребезги...*

***Вопрос. ВАСЯ, все мне говорят, что я не от мира сего...***
*ВАСЯ. Если Вы не от мира сего, то что Вам делать в этом мире?*

***Вопрос. Я часто ночую в гостиницах. А часто бывает, что сосед храпит...***
*ВАСЯ. Вставьте ему в нос глушитель от мотоцикла.*

***Вопрос. Не опасно ли спать с открытым окном?***
*ВАСЯ. Нет. Но лучше с женщиной.*

***Вопрос. ВАСЯ, как стать добрым?***
*ВАСЯ. Вышлите на адрес «Пятницы» сто долларов.*

***Вопрос. ВАСЯ, что делать, если надо позвонить по телефону, а нет двухкопеечной монеты?***
*ВАСЯ. Возьмите трехкопеечную и выпейте стакан газировки.*

Так бы и жил ВАСЯ инкогнито, но однажды в редакцию пришли несколько девушек, представились студентками радиотехнического института и заявили, что хотят лично взглянуть на ВАСЮ. Редактор слегка обалдел и срочно вызвал меня. Но случилось так, что в это время я как радиолюбитель работал над специальным позывным в честь тридцатилетия Победы из Дома печати, где в годы гитлеровской оккупации выходила подпольная газета. Моя радиостанция размещалась у меня в кабинете. Я обреченно повел девушек туда и, ткнув пальцем на радиостанцию, пояснил, что это и есть ВАСЯ...

Самое смешное, что будущие радиоинженеры и специалисты по компьютерам мне поверили.



# «Абяры жыццё!»

**Новы журналісцкі конкурс**

## БАЖ абвяшчае конкурс матэрыялаў па праблеме існавання смяротнага пакарання.

На конкурс прымаюцца тэкставыя, мультымедыйныя, фота-, відэа- і аўдыяматэрыялы, што выйшлі ці выйдуць у свет з 1 студзеня па 1 кастрычніка 2013 года.

Працы неабходна дасылаць да 1 кастрычніка 2013 года на адрас life@baj.by з пазначэннем аўтарства, месца і даты выхаду матэрыялу.

У журы конкурсу ўваходзяць вядомыя журналісты, а таксама прадстаўнікі праваабарончых арганізацый, што займаюцца праблемай існавання смяротнага пакарання і абаронай правоў чалавека ў Беларусі.

Трох пераможцаў конкурсу чакаюць дыпломы і прызы!

Болей пра ўмовы — на сайце www.baj.by

